НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 46 (787) 12 снежня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў ... Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Студэнт БДУ жыве на 400 тысяч у месяц

Нават адкладае штомесяц 15 даляраў на адпачынак. Старонка 7.



## Баранаў рыхтаваў, Шакуцін плаціў, Давыдзька віншаваў

Нацыянальнае «Еўрабачанне» выйграла Алена Ланская. Старонка 6.



# Усё для чалавека

Перад прыездам Лукашэнкі фарбуюць капыты каровам, запаўняюць лядовыя палацы. І нават спалілі нефотагенічную вёску Паўлавічы пад Віцебскам. **Старонка 3.**



СЯРГЕЙ СЕРАБРО

**А суддзі хто?**

## Рэдактарка аддзела культуры «Советской Белоруссіі»: Як я вас люблю, беларусаў



Журналіст «Еўрарадыё» Зміцер Лукашук затэлефанаваў рэдактарцы аддзела культуры «Советской Белоруссіі» Вікторыі Паповай, каб даведацца, як яна галасавала на адборы «Еўрабачання». Яна ўваходзіць у журы гэтага конкурсу.

Адказваць Вікторыя Папова адмовілася, але слова за слова, і журналістка пачала смяяцца з беларускай мовы журналіста. Дурны смех выклікала ў яе слова «пытаннечка».

«Як я вас люблю, беларусаў, — працягвала яна. — Ненавіджу, ненавіджу!» — перакінілася яе, і яна павесіла слухаўку. Абураны такой «культурай», рэпарцёр выставіў аўдыёзапіс размовы ў сацыяльных сетках. Там гэтая размова стала сапраўдным хітом.

Гутарку разабралі на мемы (афарызмы часоў інтэрнэту) і дэматыватары (сучасныя карыкатуры). Не дзіва, калі бяскрыўднае пытанне выклікае такую рэакцыю. Людзі балюча рэагуюць на абразы мовы ці нацыянальнай годнасці.

Урэшце самой Паповай давялося апраўдвацца, што словы «ненавіджу» адносіліся зусім не да беларускай мовы, а да стылю працы журналіста Лукашука. Але ж хто цяпер паверыць.

**ЗП**

**Прызначэнне**

### Пяць фактаў пра Барыса Святлова

Новы міністр культуры працаваў на БАМе.
**Старонка 4.**



**Аўто**

### Аўтарамонт у правінцыі ў разы таннейшы

А будаўнічыя працы каштуюць, як у сталіцы. **Старонка 5.**



**Гутарка**

### Дачка Івана Навуменкі

«У нашай сям'і не магло быць алкаголікаў ці наркаманаў».
**Старонка 9.**



**Крымінал**

### Разабраў дом рабіна і вывез у ЗША

У Мінску судзяць Юрыя Дорна.
**Старонка 10.**



# Каб звольніцца з працы, трэ будзе дазвол старшыні аблвыканкама

**Пакуль толькі работнікам дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, што мадэрнізуюцца.**

Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт, які ўжо назвалі «новым прыгонным правам». Як і чакалася, ён аказаўся не такім жорсткім, як вынікала са слоў, сказаных звопалу падчас наведвання «Барысаўдрэва». Ніякага турэмнага зняволення за сыход з працы не прадугледжваецца. Проста ўсіх работнікаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, якія мадэрнізуюцца, перавядуць на кантракт. Але кантракт не звычайны.

Згодна з дэкрэтам, датэрміновае скасаванне кантрактаў у перыяд рэалізацыі інвестыцыйных праектаў з ініцыятывы работнікаў дапускаецца толькі са згоды наймальніка. Адмова наймальніка ў скасаванні кантракта можа быць абскарджана ў старшыні абласнога (Мінскага гарадскога) выканаўчага камітэта.

Каб падсаладзіць пілюлю, работнікам дадаткова да прадугледжанай кантрактам зарплаты абяцаюць штомесячныя грашовыя выплаты. У выпадку парушэння работнікамі працоўных абавязкаў і звальнення за благія дзеянні сума атрыманай імі за перыяд работы штомесячнай грашовай выплаты падлягае вяртанню. Сума даплат не агаворваецца.

Сярэдняя зарплата на «Барысаўдрэве» складала 2 мільёны 600 тысяч рублёў (каля 300 даляраў), і гэта сярэдні для Беларусі ўзровень.

Каб зводзіць канцы з канцамі, працоўныя такіх прадпрыемстваў перыядычна выязджаюць на заробкі ў Польшчу, Расію ці на будоўлі Мінска. Там атрымоўваецца зарабляць у разы больш. А на зімовы сезон людзі зноў вяртаюцца на працоўныя месцы. Хай і невялікі заробак, але іншага няма. Новы дэкрэт адсякае ў людзей гэтую магчымасць падпрацоўваць.

Лідары незалежных прафсаюзаў бачаць у новым дакуменце небяспекі. Па-першае, ён узмацняе і без таго абсалютную неабароненасць работніка перад наймальніцай-дзяржавай.

Па-другое, нормы дэкрэта становяцца прэцэдэнтам, які лёгка распаўсюдзіць на ўсе астатнія катэгорыі прадпрыемстваў.

І, па-трэцяе, дэкрэт прывязвае рабочых да афіцыйнага месцы працы. Магчымасць «лавіць падпрацоўкі» развязвала чалавеку рукі і рабіла яго больш незалежным і фінансава абароненым.

**Мікола Бугай**

На думку лідара Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука, дэкрэт пярэчыць канвенцыям МАП. Ярашук нагадвае, што спроба хунты М'янмы выкарыстоўваць прымусовую працу скончылася міжнароднымі эканамічнымі санкцыямі супраць краіны.

**Так выйшла**




**Такія кнігі прадаюцца ў Беларусі. Раней «асновы ідэалогіі» вывучаліся паўсюль, цяпер, пасля ўзбуйнення курсаў, у шэрагу ВНУ як асобная дысцыпліна яны зніклі. Але ідэолагі ёсць амаль на ўсіх дзяржпрадпрыемствах. Кніга каштуе 109 тысяч.**

**Сяргей Гудзілін**

**Нелюдзі**

## У Салігорску ўтапілі двух маленькіх дзяцей

Салігорскі Следчы камітэт распачаў крымінальную справу за забойства двух заведама малалетніх. Вечарам 10 снежня ў кватэры рабочага «Беларуськалія» ў ванне знайшлі ўтопленымі 3-гадовую дзяўчынку і гадавалага хлопчыка. Цяпер шукаюць жанчыну, якая займалася выхаваннем гэтых дзяцей.

**БелаПАН**

**Віншуем**

## «Белсату» 5 гадоў

Гэта маленькі цуд: ужо пяць гадоў маем свабоднае беларускамоўнае тэлебачанне. Прычым з кожным годам яно робіцца больш прафесійным. Віншуем нашых смелых калег. Кажам: смелых — бо хіба толькі мы, калегі, здольныя ацаніць, што значыць праца без рэгістрацыі, ва ўмовах, якія мае «Белсат». Гледачу бывае цяжка асягнуць, якім коштам дастаюцца вось гэтыя кадры, гэтыя ўсмешкі.

Зычым яшчэ сто гадоў, толькі ўжо вяшчання з Мінска, Горадні, Магілёва.




**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перaказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сцісла**

**Сальда плацежнага балансу ў рэкордным мінусе**

Паводле падлікаў Нацбанка, агульнае сальда замежнага гандлю таварамі і паслугамі ў кастрычніку абнавіла гадавы мінімум і дасягнула $165,9 мільёна. Калі ўлічыць, што Беларусь у кастрычніку выплаціла ў расійскі бюджэт мытаў на нафтапрадукты $261,8, то агулам за месяц эканоміка краіны згубіла $427,7 мільёна.

**Актывы румасаўскага Банка развіцця павялічацца**

...на 3,5 мільярда даляраў. Грошы будуць узятыя з рэспубліканскага бюджэту. Банк развіцця Рэспублікі Беларусь быў створаны летась па патрабаванні МВФ. Узначальвае банк былы віцэ-прэм'ер Сяргей Румас.

**У мадэрнізацыю вёскі Лукашэнкі ўкладуць 20 мільёнаў даляраў**

Грошы неабходныя для «будаўніцтва, рэканструкцыі, капітальнага рамонту, мадэрнізацыі і тэхнічнага перааснашчэння аб'ектаў па вытворчасці камбікормавай прадукцыі». ААТ «Александрыйскае» знаходзіцца ў вёсцы Александрыя Шклоўскага раёна, дзе вырас кіраўнік Беларусі.

**«Італьянская» забастоўка ў сталоўцы Гродзенскага ўніверсітэта?**

Сталоўка працуе. На пытанні аб забастоўцы кухары рэагуюць нервова. Моўчкі сыходзяць у падсобныя памяшканні. Нічога не адказваюць. Заробкі ў кухараў складаюць 1,2 мільёна рублёў.

**Рымашэўскі не будзе вылучацца ў 2015**

«Я лічу, што немагчыма ў сённяшняй Беларусі называць гэта выбарамі, — сказаў ён. — І калі мы будзем сёння рабіць акцэнт на 2015 год, то гэта будзе ўводзіць у зман беларускі народ», — заявіў сустаршыня БХД.

**ЯМ**

**Самае чытанае за 5—11 снежня**

1 Конкурс альбо прафанацыя? Ланская едзе на «Еўрабачанне»
2 Рэдактарка аддзела культуры «Советской Белоруссіі»: Як я вас люблю, беларусаў
3 Да прыезду Лукашэнкі пад Віцебскам разбурылі вёску
4 Як няўдалае пудзіла лісы стала зоркай інтэрнэту — фота
5 «А хто там ідзе» — сучасная версія
6 Ліст-споведзь былой жонкі афіцэра
7 На тэлеканале СТБ абвясцілі страйк. У эфір не выйшлі навіны спорту
8 Пяць фактаў пра Барыса Святлова
9 З'явіўся клон Каткавец: дырэктар гатэля «Мінск» пра «цапочных турыстаў»
10 Ціханаў працягвае падарожжа вакол зямлі: страшны Іран

# Перад прыездам Лукашэнкі фарбуюць капыты каровам і запаўняюць лядовыя палацы

Перад прыездам Аляксандра Лукашэнкі каля Віцебска **спалілі і зраўнялі** з зямлёй адселеную вёску Паўлавічы.

Паселішча знаходзілася ў межах горада. Прадстаўнікі Першамайскага райвыканкама Віцебска далі жыхарам два дні на вываз дабра. Хто не паспееў, той спазніўся. Каля вёскі мог праехаць Аляксандр Лукашэнка, вось і спяшаліся «здзелаць красіва».

Вёску гэтую мусілі знесці яшчэ 20 гадоў таму, калі на гэтым месцы збіраліся будаваць ЦЭЦ. Але з будаўніцтвам не склалася. І хоць людзі атрымалі кватэры ў Віцебску, дамы засталіся ў іхняй уласнасці. Выкарыстоўвалі іх грамадзяне як лецішчы.

Выпадак у Паўлавічах атрымаў шырокую агалоску. Матэрыялы пра знос вёскі з'яўляліся як у беларускай, гэтак і ў замежнай прэсе.

«Наша Ніва» вырашыла ўзгадаць, што яшчэ такога незвычайнага рабілі мясцовыя чыноўнікі, каб забяспечыць паказушную карцінку, апошнімі гадамі перад прыездам да іх кіраўніка дзяржавы.

### 10. У Светлагорскім раёне клеілі шпалеры

У верасні 2010 Аляксандр Лукашэнка наведаў вёску Асташкавічы. Там Лукашэнка адкрыў малочны комплекс на 600 галоваў. Перад прыездам у аўральным рэжыме жыхары рамантавалі платы і прыбіралі вуліцы, але тым нікога не здзівіш. Самае цікавае, што за ноч да прыезду ў мясцовай школе тэрмінова пераклеілі шпалеры, якія перад гэтым прывезлі з райцэнтра. У самім жа Светлагорску ў свой час змагаліся са смуродам ад завода «Хімвалакно».

### 9. У інтэрнаце забаранялі глядзець у вокны

Вядома, калі Лукашэнка прыязджае ў горад, то сотні агентаў кантралююць усе наваколлі, каб чаго не выйшла. Спецслужбы ўважліва правяраюць усе блізкія дамы. Напрыклад, сёлета, калі лідар



У Слоніме збіралі дзьмухаўцы.



У Глыбокім спілоўвалі вішні.

Папялішча Паўлавічаў.



СЯРГЕЙ СЕРАБРО

наведваў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, у інтэрнаце «наргаса» развесілі абвесткі, што студэнтам катэгарычна забараняецца вызіраць у вокны, нават адчыняць форткі.

### 8 У Брэсце канфіскоўвалі стрэльбы

Для паляўнічых прыезд кіраўніка дзяржавы да іх у горад ці вёску — заўсёды стрэс. Вядома, што ў кастрычніку 2010 у берасцейскіх аматараў палявання часова канфіскоўвалі стрэльбы. Пацвярджалі гэта нават у міліцыі, кажучы, што такім чынам падтрымліваецца бяспека прэзідэнта.

Самае цікавае, што ў той час, пакуль Лукашэнка гуляў па горадзе над Бугам, на адной з суседніх вуліц рабочы камунгаса адстрэльваў сабак. Пасля гэты работнік прызнаўся, што ахова прэзідэнта мела з ім «непрыемную размову».

### 7. У Мазыры адстрэльвалі сабак

Адбывалася гэта ў канцы лістапада 2010, перад самымі прэзідэнцкімі выбарамі. Нават ясна не было, паспее Лукашэнка наведаць горад ці не. Тым не менш, мясцовыя ўлады пачалі «аблагароджываць» Мазыр. Валанцёры «Заабароны» налічылі, што ў тыя дні ў горадзе быў забіты 31 бадзяжны сабака. Мясцовыя актывісты апазіцыі дакладвалі тады, што электрыкі спехам клалі асфальт, а прыбіральшчыцы сарціравалі смецце. Як у найлепшых дамах Парыжа.

### 6. У Салігорску шукалі каску для Колі

У горад гарнякоў Лукашэнка вырашыў прыехаць не адзін, а з малодшым сынам. Нагода — адкрыццё пятага калійнага камбіната. Адмыслова для прэзідэнцкага сына на камбінаце паставілі арэлі, пашылі спецформу. Але выйшла адна неспадзяванка — не было шахцёрскай каскі на пяцігадовага хлопчыка. Увесь горад шукаў міні-каску.

### 5. У Столінскім раёне апламбавалі музей

У верасні 2009 Аляксандр Лукашэнка наведваў вёску Цярэблічы Столінскага раёна. Ноч напярэдадні прыезду выдалася нялёгкай для мясцовай бібліятэкаркі. Прадстаўнікі спецслужб пастукаліся да яе ўначы ў вокны і папрасілі пайсці на працу, дзе адбывалася выстава скульптур, якую захацеў наведаць беларускі лідар. «Начныя госці» агледзелі і апламбавалі кожны экспанат музея. А ўрэшце Лукашэнка ў музей нават не зайшоў.

### 4. У Глыбокім спілавалі вішні

Летась у райцэнтры Віцебскай вобласці на цэнтральнай вуліцы Леніна спілавалі ўсе дрэвы, у асноўным вішні, што вытыркаліся з-за платоў. Прычым, прыпала гэта на самы сезон гэтых ягад, што было ўдвая крыўдна. Яшчэ ў горадзе зааралі цаліну, якая дзесяцігоддзямі стаяла некранутай.

### 3. У Івацэвіцкім раёне адстрэльвалі галубоў

Перад наведваннем кукурузнага завода ў вёсцы Светлая Воля адстрэльвалі галубоў.

Івацэвіцкіх жа школьнікаў прымусілі хадзіць у Лядовы палац па раскладзе, не дай Бог пуставаць будзе! Ну і, вядома, спрабавалі ізаляваць на час прыезду кіраўніка тутэйшых апазіцыянераў. Зрэшты, гэта не нова. Перад кожнымі «Дажынкамі» гарады поўнасцю ачышчаюць ад іншадумцаў, садзяць на суткі або, у лепшым выпадку, трымаюць да ночы на працы.

### 2. У Слоніме збіралі дзьмухаўцы

У маі 2009 работнікам камвольна-прадзільнай фабрыкі загадалі ачысціць прылеглую тэрыторыю ад жоўтых кветак. Вядома, работніцы звязалі гэта з хуткім прыездам Лукашэнкі: «колькі працуем, а такое дзіва першы раз!»

У Пастаўскім раёне перад наведваннем фермы Волахі напружана вырашалі пытанне шматлікіх у жывёлагадоўлі мух.

### 1. Пад Чэрыкавам каровам фарбавалі капыты

Два гады таму, здзяйсняючы штогадовае турнэ па заражаных радыяцыяй раёнах, Аляксандр Лукашэнка завітаў у Чэрыкаў. Дык там у вёсцы Язеры пафарбавалі не толькі воданапорную вежу, але і капыты каровам — чорным. Вядома, што перад гэтым худобу вымылі шампунем. Как усё было прыгожанька і акуратненька. Пра такія выпадкі даходзіла інфармацыя і з іншых раёнаў, напрыклад, агракамбіната Сноў, але мясцовыя кіраўнікі ўсё адмаўляюць.

**Зміцер Панкавец**

# Грамадзяне першага і другога гатунку

У міліцыю і КДБ будуць браць **толькі членаў БРСМ**.

Аб гэтым Аляксандр Лукашэнка заявіў 10 снежня на сустрэчы з першым сакратаром Цэнтральнага камітэта БРСМ Ігарам Бузоўскім.

«Я не збіраюся ад каго-небудзь утойваць: мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць наш Саюз моладзі», — падкрэсліў Лукашэнка.

«Камусьці ён падабаецца, камусьці не падабаецца, але прыкладна паўмільёна чалавек сёння з'яўляюцца рэальнымі членамі Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, якія маюць членскія білеты і плацяць узносы.

І няхай гэта невялікія ўзносы, вялікія і не трэба, можа, цяпер, хто хоча больш дапамагчы, той дапаможа, справа не ва ўзносах, але гэта рэальная колькасць», — сказаў ён.

«Я працаваў у камсамоле ў савецкія часы і разумею, што не ўсё аднaзначна ў арганізацыі, бо гэта моладзь, і гэтым усё сказана. Моладзь ёсць моладзь», — адзначаў Лукашэнка. Ён звярнуў увагу на тое, што БРСМ, як і арганізацыя «Белая Русь», — гэта рэзерв кадраў для рэжыму.

«У частцы Камітэта дзяржбяспекі, МУС, усіх праваахоўных органаў мы выйдзем на тое, што патрэбна будзе рэкамендацыя Саюза моладзі, каб працаваць на гэтай ніве, і таму ў гэтым плане будзе ўзмацняцца роля маладзёжнай арганізацыі», — сказаў ён.

Хоць беларуская Канстытуцыя забараняе дыскрымінацыю людзей па палітычных поглядах, правілы накшталт гэтага фактычна замацоўваюць падзел на грамадзян першага і другога гатунку.

**Мікола Бугай**

**І ў кантрактнікі таксама**

Сяброўства ў БРСМ было абавязковай умовай для службы па кантракце яшчэ 10 гадоў таму, калі я служыў.

З 2003-га па 2004-ы год мне давялося служыць у радыётэхнічным палку асаблівага прызначэння. Аднойчы нас сабралі ў клубе на сустрэчу з сакратаром раённай арганізацыі БРСМ. Той адразу ж перайшоў да пераліку бонусаў, якія можа атрымаць сябар арганізацыі ў Навагрудку і раёне. У прыватнасці, абяцалася спрыянне ў працаўладкаванні, зніжкі ў шэрагу крамаў.

А напрыканцы сустрэчы на сцэну выйшаў адзін з намеснікаў камандзіра палка і падкрэсліў, што ўступленне ў БРСМ абавязковае для тых, хто жадае працягнуць службу ў войску па кантракце.

**Сямён Печанко**

# Пяць фактаў пра Барыса Святлова

Новы **міністр культуры**.

### 1. Працаваў у міністэрстве культуры да Лукашэнкі

Цікава, што гэта ўжо другі прыход Барыса Святлова ў міністэрства культуры. Ад 1991 ён ужо працаваў намеснікам міністра пры Яўгену Вайтовічу. «Добры чыноўнік, які ў той час нічым сябе не праявіў», — кажа былы дэпутат Вярхоўнага Савета Пятро Садоўскі.

### 2. Працаваў на БАМе

Барыс Святлоў быў «байцом» першага беларускага студэнцкага атрада на будаўніцтве Байкала-Амурскай магістралі. Разам з ім там працавалі сённяшні намеснік міністра культуры Віктар Кураш, паэт Леанід Пранчак, журналіст Сяргей Новікаў. «Яны працавалі на будоўлі і ездзілі з канцэртамі ў складзе агітбрыгады», — узгадваў потым старшыня «Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва» Уладзімір Карагін, які гэты будатрад узначальваў.

**Барыс Святлоў**

Нарадзіўся ў 1958 у Мінску. Скончыў гістфак БДУ, філасофскае аддзяленне. Быў рэктарам «Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва» (2003—2008) і Беларускага ўніверсітэта культуры (2008—2012).

### 3. Кіназнаўца

Барыс Святлоў вядомы не толькі як чыноўнік у сферы адукацыі, але і кіназнаўца. У даведніку «Беларускае кіно» ягоным працам адведзеная цэлая старонка. Кола ягоных навуковых інтарэсаў — кіно, тэлебачанне, відэа, мультымедыя. Шлях у кіно быў абраны яшчэ таму, што ягоны бацька Уладзімір Святлоў у свой час быў рэжысёрам.

### 4. Беларускамоўны

На публічных мерапрыемствах Барыс Святлоў імкнецца ўжываць беларускую мову. Універсітэт культуры таксама з'яўляецца самай беларускамоўнай ВНУ краіны. «Са мной ён заўсёды гаворыць па-беларуску», — кажа



старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў. Святлоў браў удзел ва ўзнагароджванні ў БДУ «папулярызатараў беларускай мовы».

### 5. Тлумачыў, чаму выпускнікі не едуць у вёску

Калі Барыс Святлоў быў рэктарам Універсітэта культуры, ён казаў, што на кожнага ягонага выпускніка адразу дзве заяўкі. Ён прапаноўваў павялічыць мэтавы набор, калі пэўная ўстанова адпраўляе юнака вучыцца, каб ён потым прыехаў працаваць у гэтую ўстанову. Таксама аднойчы Святлоў растлумачыў, чаму выпускнікі не хочуць ехаць працаваць у вёску: «Яны і згодны былі б застацца, калі атрымалі б адпаведныя ўмовы: тое ж жыллё, добры заробак. Але мы не можам ім у гэтым дапамагчы: усё гэта — у кампетэнцыі мясцовых улад. І калі малады чалавек не задаволены, ён будзе шукаць сабе іншае месца працы — канешне, бліжэй да сталіцы, калі не ў ёй самой».

**Зміцер Панкавец**



СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Фотафакт**

## Любоў Кавалёва — праваабаронца года

10 снежня адбылося традыцыйнае ўручэнне прэмій за дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека. Пераможцаў у трох намінацыях «Праваабаронца года 2012», «Адвакат года 2012» і «Журналіст года 2012» вызначылі прадстаўнікі праваабарончых арганізацый і журналісты.

Сёлета праваабаронцам года назвалі Любоў Кавалёву (на фота) — маці расстралянага па справе выбуху ў метро Уладзіслава Кавалёва. Адвакатамі года сталі Альвіна Дрыга і Аліна Шостак, якія баранілі ў судах маладафронтаўцаў. Журналістам года прызнаны Андрэй Пачобут, якога вінавацяць у паклёпе на Аляксандра Лукашэнку. Ён не змог прыехаць у Мінск і прымаў віншаванні праз скайп.

**Сямён Печанко**

## У Чавэса зноў рак, будзе аперацыя

Ён прызнаў гэта ў тэлезвароце, заклікаў **у выпадку смерці** падтрымаць цяперашняга віцэ-прэзідэнта Нікаласа Мадура.

З ягоных словаў, дактары знайшлі пухліну ў тым самым месцы, што і ранейшыя, і патрабуецца тэрміновае хірургічнае ўмяшанне.

Прэзідэнт Венесуэлы таксама падкрэсліў, што, калі з ім штосьці здарыцца, то ўлада пяройдзе да віцэ-прэзідэнта і міністра замежных справаў краіны Нікаласа Мадура. Ён таксама заклікаў галасаваць за Мадура на выбарах 2013 года, калі з самім Чавэсам нешта здарыцца.

«Выберыце Мадура прэзідэнтам рэспублікі. Я прашу вас аб гэтым ад усяго сэрца», — з драматызмам падкрэсліў Уга Чавэс.

Чавэс выбраў пераемнікам Мадура, а не сваіх сваякоў, якія таксама займаюць высокія пасады ў венесуэльскай іерархіі. Мадура — былы шафёр і прафсаюзнік, які стаў палітыкам пры Чавэсу.

**Мікола Бугай**



Уга Чавэс (злева) і Нікалас Мадура.

# На тэлеканале СТБ страйк

У эфір **не выйшлі навіны** спорту.

7 снежня большая частка відэаінжынераў ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне» не выйшла на працу. Па гэтай прычыне на тэлеканале СТБ пасля інфармацыйных праграм «24 гадзіны» (навіны дня) у 13.30 і 16.30 не выйшлі блокі навін спорту.

Страйк зладзілі менавіта тыя інжынеры відэамантажу, якія працуюць па дамове найму (з гэтай прычыны звольніць іх немагчыма). Прычына — невялікая, на думку работнікаў, заработная плата.

Відэаінжынеры займаюцца мантажом сюжэтаў. Выйсці з сітуацыі ўдалося падменай адных работнікаў іншымі.

Кіраўніцтва СТБ ніяк не каментуе страйк сваіх супрацоўнікаў. Але па неафіцыйнай інфармацыі, кіраўніцтва тэлеканала гатовае павысіць заробкі. З прычыны малой зарплаты сёлета СТБ пакінула папулярная спявачка Вера Карэтнікава, якая вяла передачу «Раніца. Студыя добрага настрою».

**Лявон Максюта**

## «Арт-Сядзібу» зачынілі ў трэці раз

«Вершы слухаем, музыкі выступаюць — **некага гэта пужае**».

На 6–7 снежня было запланаванае адкрыццё новага памяшкання «Арт-Сядзібы» па адрасе завулак Масквіна, 4. На імпрэзу запрасілі музычныя гурты, бардаў, паэтаў.

Аднак за пару гадзін да адкрыцця дырэктару «Арт-Сядзібы» Паўлу Белавусу паведамілі, што ўласнік памяшкання скасоўвае ад 10 снежня дамову на арэнду.

Памяшканне належыць ААТ «Сукно», у іх здымае ААТ «РэфОйл-Прадукт». Менавіта ў апошніх памяшканне здымала «Арт-Сядзіба» ў субарэнду. Са словаў Паўла Белавуса, арэндадаўцу выклікалі ў Мінгарвыканкам, дзе настойліва параілі скасаваць дамову.

Гэта ўжо трэці выпадак, калі ў «Арт-Сядзібы» адбіраюць памяшканне. Так было, калі пляцоўка знаходзілася на заводзе «Гарызонт», потым — на Пушкіна, 28а.

«Калі ўпершыню забіралі, то думаў, што справа ў «Гарызонце». У другі раз палічыў, што гэта праз канцэрт Вольскага. Цяпер ясна, што справа менавіта ў нас, — кажа Павел Белавус. — Вершы слухаем, музыкі выступаюць — некага гэта пужае».

Па інфармацыі дырэктара, загад на закрыццё прыходзіў з ідэалагічнага ўпраўлення Мінгарвыканкама. «Будзем спрабаваць трапіць туды на прыём, таксама напісаў ліст у Адміністрацыю прэзідэнта, каб далі адказ, чаму так адбываецца».

«Гадка і непрыемна, што ўсё гэта робіцца за спінамі, а не ў адкрытую», — падсумоўвае Белавус.

«Арт-Сядзіба» — адкрытая культурная пляцоўка, дзе адбываюцца канцэрты, імпрэзы, прэзентацыі, кінапаказы.

**ЗП**

### Сцісла

**«Ляпіс Трубяцкі» падтрымаў Алеся Бяляцкага**

Падчас канцэрта «Ляпісаў» у Маскве 8 снежня прайшла акцыя Amnesty International у абарону беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, асуджанага на 4,5 года, і яшчэ 4 чалавек з Судана, Ірана, Тайваня і ЗША.

**Масква хоча, каб Беларусь скасавала свае візы**

Прапрацоўваецца пытанне аб увядзенні візы саюзнай дзяржавы. Пра гэта ў панядзелак паведаміў журналістам дзяржсакратар саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота.

**Асуджаны быць свабодным**

Чарговая міні-стужка з серыі «Хроніка суднага часу» з'явілася ў інтэрнэце. Фільм прысвечаны палітвязню, анархісту Ігару Аліневічу.

**Старшынёй суполкі геяў абраны Сяргей Андросенка**

Устаноўчы з'езд ЛГБТ-арганізацыі «Лямбда» прайшоў 8 снежня ў Мінску. Старшынёй яе абраны Сяргей Андросенка, яго намеснікам — Максім Дзмітрыеў.

**ЗП**

# Аўтарамонт у правінцыі ў разы таннейшы, а будаўнічыя працы каштуюць, як у сталіцы

У кастрычніку сярэдняя зарплата ў Мінску дасягнула $637. Услед даражэюць прадукты ў крамах, скача кошт нерухомасці, становіцца ўсё вышэйшым цэннік на аўтарынку...

Але варта ад'ехаць ад сталіцы літаральна за 50 кіламетраў, як заробак падае ледзь не ў два разы. Напрыклад, у не самай беднай Валожыншчыне з пачатку года работнікі штомесяц зараблялі ў сярэднім усяго па $326. Ці значыць гэта, што тавары і паслугі таксама таннеюць за межамі сталіцы?

«Наша Ніва» параўноўвае цэны ў сталіцы і рэгіёнах.

### Аўтадэмпінг за МКАД

У райцэнтрах працу станцый тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў мясцовыя механікі выконваюць у сваіх гаражах. Але калі хто-ніхто афармляе афіцыйную рэгістрацыю, то цэннік пакідае на ранейшым узроўні. Інакш кліенты пойдуць да суседняга механіка ці будуць корпацца ў машыне самастойна.

Цэны зручна параўноўваць на прыкладзе рэменя газаразмеркавальнага механізма (ГРМ). Замена ГРМ — абавязковая працэдура, якую кіроўцы праводзяць кожныя 60 тысяч кіламетраў. Самому яе зрабіць складана, нават у спрактыкаваных людзей яна займае некалькі гадзінаў часу. Для кожнага аўтамабіля кошт замены розны. За працу на канкрэтным мінівэне ў мінскіх СТА просяць 850—890 тысяч рублёў — фактычна $100. А колькі давядзецца заплаціць, калі выехаць у рэгёны?

У абласным Брэсце адразу ў некалькіх СТА называюць $70—75. Тэлефануем далей — у Валожыне і Маладзечне ў мясцовых СТА кажуць ужо па $60 за тую ж працу. Амаль удвая танней, чым у Мінску... Адметна, што ў сталіцы цэннік адразу ж прыводзіцца ў далярах, а ў рэгіёнах — у рублях.

Вядома ж, бываюць і выключэнні. Напрыклад, у Вілейцы на адным з СТА заламілі больш за $130! Трэба быць гатовым і да яшчэ адной тэндэнцыі. Названая па тэлефоне арыенціровачная цана можа прынцыпова адрозніваца ад той, якая будзе агучаная пасля рамонту, калі на аўтамабілі замацаваныя сталічныя нумары.

Такая прапорцыя назіраецца і ў іншых відах аўтамабільных працаў. Напрыклад, шынамантаж у Мінску каштуе да 200 тысяч рублёў, у райцэнтрах — да 150 тысяч. Вядома ж, за такой эканоміяй у суседні горад спецыяльна не паедзеш, але хто мае дзядоў у раёне, той пры нагодзе наведвае і СТА. Кажуць, асабліва выгадныя за межамі Мінска лакафарбавыя працы.

### Роўнасць будаўнічых расцэнак

А што з будаўнічым рынкам? Ці танней выпісаць правінцыйнага спецыяліста, нават калі апляціць яму дарогу? Аказваецца, рэгіянальныя і сталічныя расцэнкі фактычна аднолькавыя. Напрыклад, укласці квадратны метр пліткі каштуе ў Мінску $8—10. Якую суму папросяць у Маладзечне? Абтэлефаноўваю аб'явы і чую тое самае: «$8 за метр, калі вялікая плошча, і ад $9 за маленькую». Паклейка шпалераў — тое самае.

«За мяжой усё адно плаціць на будоўлі больш, — тлумачыць валожынскі рознарабочы. — Пакуль зіма, зараблю дома, а летам паеду на працу ў Польшчу ці ў Расію».

Што ж, розніца ў заробках у Беларусі і іншых краінах дазваляе суседзям наймаць найлепшыя беларускія рукі.

**Ягор Марціновіч**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Рамонт «па-багатаму» хочуць і ў Мінску, і ў Карме.

**Сярэдні месячны заробак (студзень—кастрычнік 2012)**

Мінск — $542

Брэст — $418

Маладзечаншчына — $390

Вілейшчына — $327

Валожыншчына — $326

# Масква прыслала падкрапленне

Беларусь атрымае $440 мільёнаў, Расія **заплюшчвае вочы** на выкананне умоваў крэдыту.

Рада Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС ухваліла выдзяленне Беларусі чарговага траншу крэдыту на $440 мільёнаў. Гэта частка вялікага крэдыту на $3 мільярды, які Аляксандр Лукашэнка ўзяў летам мінулага года, каб ўратаваць эканоміку ад дэфолту.

Расійскі міністр фінансаў Антон Сілуанаў заявіў, што не варта звязваць выдзяленне грошай з палітычнымі момантамі: «Магу вас запэўніць, што ніякай палітыкі не было. Гэта чыстая эканоміка». Паводле словаў Сілуанава, увесь пералік мерапрыемстваў, прадугледжаных для выдзялення чацвёртага траншу крэдыту, выкананы.

Варта ўзгадаць чэрвеньскую сітуацыю, калі Беларусь павінна была выканаць 17 заданняў для атрымання папярэдніх $440 мільёнаў. Праігнараванымі аказаліся дзве ўмовы — павышэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ і падаражанне грамадскага транспарту. А ў якасці прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці быў залічаны продаж «Белтрансгаза», што дазволіла ўладам заявіць, што план па прыватызацыі выкананы. Гэта былі тры балючыя кропкі беларускай эканомікі.

Як прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч і старшыня Нацбанка Надзея Ермакова выпраўлялі сітуацыю на гэтых трох кірунках? Ніяк. Выкананне ўсіх трох параметраў было выкраслена з іх ліста аб намерах, дасланага ў Расію ўлетку. Вырашыць сітуацыю яны паабяцалі да канца 2012 года. Згодна з іх планамі, насельніцтва будзе кампенсаваць як мінімум 35% выдаткаў на ЖКГ і 85% выдаткаў на транспарт. Дасягнуць гэтых паказчыкаў за апошні месяц года нерэальна. Як і правесці прыватызацыю на $2,5 мільярда. «План па прыватызацыі на 2012 год не будзе выкананы», — прызнаўся Міхаіл Мясніковіч падчас Беларускага інвестыцыйнага форуму.

І тым не менш Расія, якая прымае рашэнні за ЕўрАзЭС, вырашыла выдзеліць Беларусі чарговы транш. Дык ці можна паверыць усё ж, што гэта чыстая эканоміка і ніякай палітыкі?

Атрыманне гэтых сродкаў здымае патрэбу тэрміновых перамоваў з МВФ.

**ЯМ**

# Без растваральнікаў нафтаперапрацоўчы завод не патрэбны

Наваполацкаму мільянеру **Вараб'ю** даручаць іншы праект.

На базе Наваполацкага завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў не будуць будаваць новы нафтаперапрацоўчы завод, як тое было даручана загадам Аляксандра Лукашэнкі.

Адзін з найбуйнейшых прыватных нафтатрэйдараў, наваполацкая кампанія «Інтэрсэрвіс», якая намінальна належыць мясцоваму бізнесмену Мікалаю Вараб'ю, адмовілася ад рэалізацыі праекта. «Цяпер зменена тэма інвестпраекта, новая тэма пакуль не ўзгоднена і агалосцы не падлягае, але можна сказаць, што інвестар будзе там рэалізоўваць зусім іншы праект, ніяк не звязаны з нафтаперапрацоўкай», — расказалі агенцтву «Інтэрфакс» у Наваполацкім гарвыканкаме. Для гэтага давядзецца ўнесці змены і дапаўненні ў прэзідэнцкі ўказ.

На новых магутнасцях меркавалася перапрацоўваць расійскую нафту. Цяпер, з прыкрыццём схемы экспарту растваральнікаў у краіны Еўропы, пільная патрэба ў дадатковым заводзе знікла.

**ЯМ**

### Сцісла

**Жлобінскі металургічны ўзяў крэдыт на 141 мільён еўра**

Еўразійскі банк развіцця выдаў самы вялікі крэдыт з тых, што ішлі беларускім кампаніям. Грошы пойдуць на будаўніцтва вытворчасці дроту.

**Схему нацыяналізацыі «Камунаркі» і «Спартака» прапішуць у законе**

Дзяржкамітэт па маёмасці падрыхтаваў змены ў закон «Аб прыватызацыі». Яны, фактычна, апісваюць схему, па якой былі нацыяналізаваныя кандытарскія фабрыкі «Камунарка» і «Спартак» — «шляхам выпуску дадатковых акцый і перадачы іх Рэспубліцы Беларусь ... на падставе пастановы гаспадарчага суда».

**LG, Philips, Samsung і Panasonic аштрафаваныя на 1,5 мільярда еўра**

Еўракамісія аштрафавала сем міжнародных вытворцаў электронна-прамянёвых трубак (ЭПТ) для тэлевізараў і манітораў за картэльную змову, якая існавала каля 10 гадоў. Удзельнікамі картэляў былі LG, Philips, Samsung, Panasonic, Toshiba і іншыя кампаніі. Яны на працягу 10 гадоў праводзілі загадзя ўзгодненую цанавую і вытворчую палітыку, а таксама размяркоўвалі долі на рынках.

**ЯМ**

# Баранаў рыхтаваў, Шакуцін плаціў, Давыдзька віншаваў

**Нацыянальнае «Еўрабачанне» выйграла — хто б вы думалі — Алена Ланская.**

У Мінску ў выходныя прайшоў нацыянальны фінал «Еўрабачання». Алена Ланская перамагла па выніках глядацкага галасавання з адрывам у некалькі тысяч галасоў.

Спявачка змяніла імідж: замест бландзінкі стала стрыжанай шатэнкай. Спявала яна лежачы разам з падтанцоўкай на коле для дартса.

Яна была названая пераможцай і летась, але тады ўсчаўся скандал: гурт «Лайтсаўнд» здолеў даказаць, што вынікі глядацкага галасавання сфабрыкаваныя. Падчас гучнай нарады з асабістым удзелам Лукашэнкі нагарэла старшыні БДТРК Генадзю Давыдзьку, прадзюсару Ланской Аляксандру Шакуціну і міністру культуры Паўлу Латушку. Вінаватым быў названы выканаўчы прадзюсар БТ Дзмітрый Баранаў — нібыта, гэта ён загадаў накруціць галасы Ланской, хоць перамагаў «Лайтсаўнд».

Цяпер Баранаў працуе ў прадзюсарскім цэнтры «Спамаш», які належыць сенатару і багацею Шакуціну. І... прадусуе Алену Ланскую. «Мы не ставілі задачы выйграць, — сціпла кажа Баранаў. — Але мне прыемна, што тры артысты з пяці выхаванцаў «Спамаша» выйшлі ў фінал нацыянальнага адбору на «Еўрабачанне». Пра мінулае Баранаў успамінаць не хоча: «Трэба крочыць наперад, не азіраючыся». Колькі каштаваў створаны «камандай прафесіяналаў» нумар Ланской, прадзюсар не выдае: «Магу толькі сказаць, што ён быў зроблены за грошы айчынных вытворцаў, за ўласныя сродкі прадзюсарскага цэнтра «Спамаш», якіх у яго дастаткова».

«Я ставіла мэту паказаць, што я ўмею. Дзякуй, што вам спадабалася і вы мяне падтрымалі. Мы едзем у Швецыю!» — так адкаментавала ў тэлеэфіры спявачка чарговую для сябе элегантную перамогу.

Прыз пераможца — шкляное сэрца вырабу шклозавода «Нёман» — ёй уручыў кіраўнік БТ Генадзь Давыдзька: «Я хачу павіншаваць вельмі чыстую, працаздольную, сапраўдную артыстку з перамогай! Ты гэтае сэрца заслужыла».

«Лайтсаўнд» не быў запрошаны на цырымонію нават у якасці гасцей.

**Сяргей Мікулевіч**



# «Горкая праўда пра наш горад»

**У Мінска з'явіўся сімвал і слоган.**




Брытанская кампанія INSTID, якая ў чэрвені выйграла тэндар на стварэнне брэнда Мінска, апрылюдніла новы сімвал горада — гэта патэрн бела-блакітанага колеру, падобны да «інтэгралаўскай» мікрасхемы, са слоганам Think Minsk. Строгія белыя лініі, на думку распрацоўшчыкаў, мусяць паказваць імкненне горада да інавацый. Блакітны колер («мінскі блакіт») кампанія прапануе зрабіць колерам горада, а таксама працуе над стварэннем водару горада і фірменных «мінскіх страваў».

У слогана ўжо ёсць працоўная расейскамоўная версія — «Минск. Интересно». Беларускамоўная ў распрацоўцы.

Сімвал і слоган крытыкуюць за безаблічнасць. Напрыклад, лозунг Think ужо сустракаўся ў свеце брэндаў — да Другой сусветнай яго выкарыстоўвала кампанія IBM. Лозунг Think прапаноўвалі як лозунг Лондана.

Для «Нашай Нівы» мінскія сімвалы прааналізаваў мастак Уладзімір Цэслер.

«У самім узоры нешта ад Мінска ёсць, мне падаецца, што там адлюстравалася горкая праўда пра наш горад — вось гэтае бяздушнае гарадское асяроддзе, да якога наш горад рухаецца, — кажа ён. — Таму так, сімвал адлюстроўвае цяперашні стан Мінска. Што тычыцца колеру, то з ім я амаль згодны. Не падабаецца шрыфт. Здаецца, ён проста ўзяты з інтэрнэту.

Лозунг Think Minsk, што перакладаецца «Думай пра Мінск», мне падаецца больш удалым, — кажа спадар Цэслер. — Ён, заўважце, нашмат цяплейшы за сімвал. Расейскамоўная версія таксама неблагая. Але яна кантрастуе з узорам».

Стварыць такі сімвал горада, які б самі гараджане палічылі сваім, — няпростая і дарагая справа. Трэба рабіць апытанні фокус-груп, прыцягваць прафесіяналаў, удумвацца ў гісторыю. Таму Think Minsk, створаны цапом-лапом, рызыкуе праляцець як фанера над праспектам Незалежнасці, не зачапіўшы за сэрца мінчукоў.

**Юрась Ускоў**

# Ладуцька загадаў паслаць на ўборку снегу бамжоў

**Гэта не новы спосаб барацьбы са стыхіяй — у Польшчы снег разграбаюць нават зняволеныя.**

Паводле прагнозаў сіноптыкаў, снегапады ў сярэдзіне снежня працягнуцца. І адпаведныя службы павінны быць гатовыя да неспрыяльных умоў, заявіў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька. На аператыўнай нарадзе ён загадаў павысіць якасць уборкі сталіцы ад снегу.

Чыноўнік даручыў больш актыўна прыцягваць да работ грамадзян, якія вядуць асацыяльны лад жыцця, раней судзімых і якія без пэўнага месца жыхарства.

Як паказвае вопыт суседніх краінаў, падобная ініцыятыва не новая. Напрыклад, у Польшчы снег прыбіраюць не толькі беспрытульныя, але і зняволеныя. Некалькі год таму ў польскіх СМІ мела шырокі розгалас ініцыятыва зняволеных адной з турмаў, якія самі выклікаліся дапамагаць рыхтавацца да паводкі. Пакуль невядома, як будуць заахвочваць на барацьбу са снегам мінскіх бамжоў, але ў той жа Польшчы гэта справа выключна добраахвотная. Акрамя таго, за яе беспрытульным і зняволеным плацяць заробак.

**СП**

# У Бабруйску паставяць помнік Шуру Балаганаву з «Залатога цяляці»

Бронзавую двухметровую скульптуру Шуры Балаганава плануюць устанавіць 28 снежня паблізу знака-паказальніка напрамкаў ля рэстарана «Чырвоная вежа».

Тут жа можна будзе прачытаць урывак са знакамітага рамана Ільфа і Пятрова, дзе Бабруйск згаданы як высокакультурны горад, куды імкнуліся ўсе дзеці лейтэнанта Шміта.

Эскіз скульптуры трымаецца ў строгім сакрэце, як і яе цана. Кампазіцыю адлівае ў Смаленску 26-гадовы маскоўскі скульптар Яраслаў Барадзін.

**БелТА**

# Трэнера БАТЭ сватаюць у «Црвену Звезду»

Пра інтарэс да Віктара Ганчарэнкі паведаміў сайт redstarbelgrade.info. Настаўнік БАТЭ разглядаецца сярод кандыдатаў, хто можа змяніць Аляксандра Янкавіча. Сярод іншых прэтэндэнтаў называецца Мілаван Раевац, іспанцы Віктар Муньёс і Хасэ Мары Бакера.

Віктара Ганчарэнку прадстаўляюць як аднаго з найлепшых маладых трэнераў Еўропы. Як плюс Ганчарэнкі называецца, што ён паставіў выдатную фізічную падрыхтоўку, дысцыпліну і гульню на контратаках.

«Ганчарэнка з'яўляецца больш танным варыянтам у параўнанні з Муньёсам, і наколькі мы ведаем, ён сам зацікаўлены ў пераходзе ў «Црвену Звезду», — паведамляе сайт.

У групе фанатаў белградскага клуба ў Фэйсбуку таксама ідзе абмеркаванне, каго б яны хацелі бачыць трэнерам каманды. Ганчарэнка набраў 72% галасоў.

Зрэшты, кіраўнік праўлення ФК БАТЭ Анатоль Капскі абвяргае такі трансфер. Ён кажа, што Ганчарэнка нядаўна адмовіўся ад прапановы клуба расійскай прэм'ер-лігі, то няма сэнсу ехаць на Балканы.

«Црвена Звезда» — самы тытулаваны клуб Сербіі, нават перамагаў у Кубку чэмпіёнаў (1991), але апошнія гады знаходзіцца ў цені яшчэ адной сталічнай дружыны — «Партызана».

**Зміцер Панкавец**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Выжыванне па Курэпіну

**Студэнт БДУ жыве на 400 тысяч у месяц. І жыве!**

Нават адкладае штомесяц 15 даляраў на адпачынак.

З Мікітам Курэпіным, студэнтам 1 курса гістфака БДУ, сустракаемся каля корпуса гістфака на Чырвонаармейскай і ідзём абедаць у сталовую Ліцэя БДУ. Туды Мікіта ходзіць амаль штодзень. Пакуль я выбіраю салату, Мікіта хутка ставіць на паднос талерку макароны і талерку грэчкі.

Свой месячны бюджэт ён раскладае мне гэтаксама хутка.



Макарона і грэчка— з гэтага складаецца рацыён Мікіты.

КІРЫЛА ХІЛЬКО



Бюджэт у студэнта распісаны да капейкі.

### Мікітаў бюджэт

Мікітава стыпендыя складае 540 тысяч. 120 з іх ідуць на аплату месца ў інтэрнаце на вуліцы Свярдлова. Кожны тыдзень на ежу Мікіта выдаткоўвае каля 75 тысяч. 16 тысяч — на 3 бананы, 3 яблыкі і 3 ёгурты. Выбірае самае таннае, што са зніжкай. Макарона ці каша — 7,5 тысячы ў тыдзень. Мабільная сувязь і інтэрнэт — 10 тысяч у тыдзень. 10 сняданкаў і абедаў у сталовай — 22 500 на тыдзень. 2 тысячы — пачак печыва. 15 тысяч застаецца на гігіенічныя сродкі. «Часам грошы застаюцца пасля стыпендыі. Бывае, гляджу: «О, штосьці ў мяне шмат!» Вось у мінулым месяцы набыў фінікаў танных на 5 000... Не, такога, каб у жыцці ў мяне была нейкая разнастайнасць, — такога няма».

Таксама штомесяц Мікіта купляе расійскіх рублёў на 120 ці 150 тысяч. «Атрымліваецца нешта каля 500 расійскіх рублёў, — кажа Мікіта. — На што адкладаю, пакуль не ведаю. Магчыма, на невялікі адпачынак летам. У мяне ёсць родзічы ў Кіеве, заўсёды запрашаюць. Ну ці ў Львоў — таксама прыгожае месца».

### Стаў вегетарыянцам, каб унесці навізну

«Звычайна перад парамі я не снедаю, толькі калі ёсць нейкая «фортачка». Але цяпер пайшлі залікі і з'явілася больш часу для сняданкаў. Снедаю і абедаю ў сталовай за 2 ці 2,5 тысячы. Вячэра: ёгурт і яблык ці банан — залежыць ад таго, што лепш захавалася. І гарбата. Нармальна. І так кожны дзень», — кажа Мікіта.

Мікіта — вегетарыянец. «Я халерык-сангвінік, мне патрэбны змены. Хацелася навізны, таму я вырашыў стаць вегетарыянцам. Спачатку думаў, што не змагу без мяса. Але ж гэта эканомія плюс этычныя прынцыпы — таму паспрабаваў. Яшчэ ў студзені мінулага года пачаў ладзіць «вегетарыянскія дні», потым вырашыў цалкам перайсці на вегетарыянскую дыету ды прызначыць гэта да сімвалічнай даты. Разглядаў Дзень Волі як опцыю, але спыніў мясаедства ў пачатку красавіка на дзень нараджэння. Спачатку было цяжкавата, але потым адчуў прыемную лёгкасць. А цяпер думаю: «Чаму людзі ядуць мяса?» Нядаўна быў у краме, пабачыў цэны. Чакаў, што салямі якіх 40 тысяч, а яна за сотню! Ё-маё!.. У кожным разе, мне так падабаецца. Ды з суседзямі мне пашэнціла: ім прывязуць яблыкаў ці зефір які, дык частку мне аддадуць — сапсуецца ж».

### Дыета адбіваецца на здароўі

Недаяданне адбіваецца на арганізме. Мікіта гэтага не хавае: «Цягам часу ўсё было добра, але цяпер адчуваецца нейкая стомленасць. Сёння была фізкультура — на другой палове пары ўвогуле не мог нічога зрабіць. Бывае так, што інфармацыя не ідзе, галава не працуе. Але штосьці атрымліваецца. Канечне, трэба б унесці нейкую разнастайнасць у рацыён, але я ўжо звыкся са сваім ладам жыцця».

Ежу Мікіта захоўвае ў шафе, бо з лядоўні на кухні «ёгурты знікаюць». «А там напісана «захоўваць пры тэмпературы ад 0 да +25», вось я і эксперыментую».

### А што ж мама?

Сваякі да Мікіты наведваюцца раз на паўтара месяца, прывозяць адзенне, ежу. Яны прапануюць яму грошы, але Мікіта прынцыпова не бярэ. Адмаўляецца і ад большасці прывезенай ежы. Маці жыве і працуе ў Расіі. Яна таксама заўсёды гатовая дасылаць сыну матэрыяльную падтрымку. Але Мікіта хоча быць цалкам самастойным.

«Сваякі, мама, канечне, хочуць мне грошы даць, але я адмаўляюся. Я заўжды марыў жыць на свае грошы», — кажа Курэпін.

### Піша канспекты, каб не думаць пра ежу

«Снедаю аб 11-й (але часам сняданка не бывае ), абедаю а 15-й, вячэраю звычайна а 20-й. На лекцыях я звычайна пішу, каб не думаць пра ежу. Таму канспекты па прадметах, што стаяць увечары, самыя поўныя. Жывы — і нармальна».

### «Не!» грамадскаму транспарту

У мэтах эканоміі Мікіта не карыстаецца грамадскім транспартам. Не ездзіць нават зайцам, бо «не мае такой звычкі». «А навошта мне ездзіць?» — пытаецца Мікіта, пакуль мы хвілін 15 ідзём ад сталовай да інтэрната. «Я паўсюль дабіраюся пешкі. Далёка забірацца таксама няма патрэбы. Неяк былі справы ў пасольстве Расіі, дык я дайшоў да таго Камсамольскага возера.

Мне самому цікава, колькі я магу прайсці. Вось нядаўна сумаваў, трэ было нешта рабіць у выхадны дзень, і я дашпацыраваў да станцыі метро «Спартыўная». І вандроўка, і для здароўя добра. Бывае раз у месяц неадкладна трэба кудысьці дабраціца. Аднойчы ўся група паехала ў Нацыянальную бібліятэку, аднойчы ездзіў у студэнцкую паліклініку. Ну і яшчэ калі родзічы прыязджаюць. А так больш не было выпадкаў, каб на транспарце ездзіў. Калі б зноў транспарт стаў бясплатным для студэнтаў — карыстаўся б з задавальненнем. А так эканомлю на чым магу. Калі мы развіталіся, Мікіта прапанаваў два жэтоны на метро: яны засталіся пасля візіту сваякоў і яму непатрэбныя.

### Беларускамоўны грамадзянін РФ

Мікіта размаўляе толькі па-беларуску, і хораша. Было дзіўна даведацца, што ён з Расіі. «Сам я ўсё сваё жыццё жыву ў Беларусі, але ўсе сваякі паходзяць з Расіі. І сам я нарадзіўся ў Смаленску. На шляху з Масквы ў Полацк», — дадае Мікіта і працягвае два свае чырвоныя расійскія пашпарты як доказ. «Бацьку я ніколі не ведаў, а маці працуе на нафтаздабычы ў Рэспубліцы Комі вахтавым метадам. Яна з'язджала надоўга, таму адправілі мяне да цёткі і бабулі ў Наваполацк. Але ў іх там свае праблемы ў Наваполацку, таму, так сказаць, яны не турбуюць мяне, а я не турбую іх».

Размаўляць па-беларуску Мікіта вырашыў праз усю тую ж неабходнасць змен. «З гэтага мая я падумаў, што трэба пераходзіць на беларускую мову. Мая беларуская была — жах! У атэстаце 5 балаў. Спачатку вывучыў асноўныя словы, потым неасноўныя. А потым пачуў пра нейкую акцыю «аўторак беларускай мовы» і пачаў кожны аўторак размаўляць па-беларуску. З кожным разам выходзіла ўсё лепей і лепей. Неяк званіў сваім родзічам і прасіў пакласці грошы на рахунак па-беларуску. Во яны здзівіліся мове! У БДУ спачатку ўказаў мову навучання расейскую, але потым перапісаў заяву. З 1 верасня цалкам размаўляю па-беларуску. Спачатку было цяжка: масавая трасянка, г.д. А цяпер нават не задумваюся пра словы. Я сам атэіст, у Бога не веру, бо яго не бачу. Але ў касцёл хаджу паслухаць беларускую мову».

### У вольны час — па горадзе

«У вольны час рыхтуюся да наступнага дня. Ці ў госці да суседзяў па інтэрнаце схаджу. Ці ў гульню якую камп'ютарную пагуляць. А ў выхадныя — проста шпацыр па горадзе. У мяне ёсць здымач звычайненькі. Хаджу, фатаграфую адное і тое ж. Ці ад крамы да крамы хаджу — паглядзець, што ёсць. Трэба ж хоць штосьці рабіць. Мастацкую літаратуру не люблю, яна мне ўвесь час была нецікавая. А навуковае пачытаць што ці для заняткаў — калі ласка».

### Мікіта трапіў, куды жадаў

«У мяне ёсць мара стаць настаўнікам гісторыі. Вось я і паступіў на гістфак. Некаторыя не ведалі матэматыкі, але пайшлі на фізічны, проста каб паступіць. Але гэта не для мяне».

Вучыцца Мікіта пакуль што добра. «А што будзе на іспытах, я не ведаю. З цягам часу даведаюся», — кажа ён.

Мікіта кажа, што ў яго няма схільнасцяў да навуковай працы, яму бліжэйшая «малая сацыяльная група, якой можна кіраваць. То бок клас».

Мікіта не хоча вярнуцца ў Расію. У Мінску на размеркаванне заставацца таксама б не хацеў — занадта доўгі тэрмін для аднаго месца.

Па яго словах, Гродна было б выдатным месцам. Ехаць у вёску няма жадання, але калі адправяць, нічога не зробіш. Кажа, што нядрэнна было б з'ехаць на Захад, але баіцца быць нікому не патрэбным. Да таго ж, замежная мова даецца яму нялёгка.

А пакуль Мікіта вучыць профільныя прадметы, лаціну і чакае сесіі. «Па выніках сесіі будзе пераразмеркаванне стыпендыі, — кажа ён. — Калі здам добра, магу атрымаць нават да мільёна. Калі ўмерана разумным акажуся — трохі меней за тое. Калі неразумным — трохі болей за цяперашнія грошы. Калі зусім неразумным — 540 тысяч і застанецца».

**Кірыла Хілько**

**Ад Рэдакцыі.** Удачы табе, Мікіта, на сесіі.

# Азаранка набыла машыну за 100 тысяч даляраў і кінула бойфрэнда



Першая ракетка свету, беларуска Вікторыя Азаранка на тым тыдні набыла аўтамабіль Porsche Panamera. Пра гэта тэнісістка паведаміла ў сацыяльных сетках.

«Мая новая дзетка. Гарачая, хуткая, моцная і гучная! Е-е-е-е-е-е! Вам падабаецца?» — напісала Азаранка. Раней у Мінску тэнісістка перасоўвалася на бардовым Porsche Cayenne.

Гэта не адзіная навіна ў асабістым жыцці беларускі. Стала вядома, што Азаранка разышлася са сваім хлопцам — украінскім тэнісістам Сяргеем Бубкамі-малодшым.

«Не люблю размаўляць з прэсай пра сваё асабістае жыццё, але цяпер магу сказаць, што мы з Сяргеем больш не сустракаемся», — перадае словы Азаранкі gotennis.ru.

Але не забывалася Вікторыя і на тэніс, хоць цяпер міжсезонне. У выставачным матчы (гэта хутчэй шоу, чым спорт) у бразільскім Сан-Паўлу Азаранка перамагла Серэну Уільямс.

**Зміцер Панкавец**



**Фотафакт**

**Рэнан Брэсан развітаўся з БАТЭ. Ад 15 снежня ён афіцыйна гулец уладзікаўказскай «Аланіі». Пакуль жа футбаліст атрымаў невялікі адпачынак, які плануе правесці ў родным бразільскім Тубаране. Брэсан ужо выселіўся з мінскай кватэры, з якой забраў кнігу Уладзіміра Арлова «Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае». Цяпер Рэнан у нашу краіну будзе прыязджаць толькі на гульні зборнай.**

## У Львове могуць зачыніць легендарны рэстаран «Криївка»

Улады горада прад'явілі мясцовай сетцы !Fest **шэраг абвінавачванняў**.



Уладальнікаў «Криївки», «Гасової лямпи» і «Львівської майстерні шоколаду» вінавацяць у незаконнай забудове гістарычнага цэнтра горада, адсутнасці дазвольнай дакументацыі на рэстараны, спрыянні распаўсюджванню наркотыкаў, а таксама непавазе да нацыянальных герояў, паведамляе «Коммерсантъ-Украина».

Рэстаран «Криївка» аформлены ў духу Украінскай паўстанцкай арміі. Ежу падаюць у вайсковым посудзе, можна напрататць зброю. Каб патрапіць унутр, трэба ведаць адмысловы пароль «Слава Україні! Героям слава!» Калі пароль ведаеш, то цябе адразу пачастуюць чаркай медавухі.

«Криївка» — адна з найпапулярнейшых кропак для турыстаў, што наведваюць Львоў.

**ЗП**

## Батанічны сад Мінска пачаў продаж елак у кадушках

Сёлета запланавана рэалізаваць каля 100 вялікіх і 100 маленькіх елак, паведамілі ў Цэнтральным батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук.

У краме Батанічнага саду можна будзе набыць як маленькае навагодняе дрэва вышынёю да аднаго метра, так і вялікае — 1,5 м.

Цана на такое навагодняе дрэва прыемна здзівіць пакупнікоў. Кошт маленькай елкі складзе 152 тыс. рублёў, вялікае дрэва будзе каштаваць 302 тыс.

**БелТА**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Серп і голад

Нядаўна, калі Украіна зноў стагнала ад незагоенай раны Галадамору, а Беларусь намаганнямі сумленных даследчыкаў адкрывала для сябе дзесяцігоддзямі затоены жах, нейкая маскоўская дама з навамоднай пароды так званых «незалежных палітолагаў» так выказалася аб трагедыі: «...Галадамор? Гістарычны тэрмін».

Чамусьці ўзгадалася адно мінскае застолле напрыканцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Пад пляскание ў далоні падалі бутэрброды з ікрой, якой, дзякуючы блізкаму знаёмству з адным распарадчыкам дэфіцыту, расстаралася гаспадыня. «А вы памятаеце, — запытаўся сусед па сталу, выціраючы рот сурвэткай, — як у пяцідзясятых гадах прадавалі ікру проста з бочак?»

Вядома, я памятаў. Я нават памятаў, дзе прадавалі — у гастраноме насупраць Дома ўрада, што месціўся на першым з пяці паверхаў будынка ў стылі ампір. І не толькі ікру — кансервы «Снатка» з сапраўдных крабаў, вяндліну і вэнджаныя кілбасы, ад якіх ішоў галавакружны пах, і селядцы, таксама з бочак, з дзівоснай назвай івасі...

Яшчэ я памятаў цётку Полю з тых жа гадоў. Бразгаючы ад раніцы бітонамі, у галёшах на босую нагу, разносіла па начальніках і блізкай да ўлады інтэлігенцыі малако, зрэдку — цяляціну, пералічваючы пасля кожнага продажу пакамечаныя дарэформенныя траякі ды рублі. Ці каштавала сама?

Памятаў я і Мацея з нарачанскай вёскі Купа, куды ў згаданыя часы ікорна-кілбаснага росквіту пачалі наязджаць з Мінска першыя савецкія дачнікі. Неверагодна худы, да чарнаты высахшы на ветры і сонцы, гарбаціўся — у яго і сапраўды ўжо тады, у трыццаць гадоў, нарос горб — ад золку да золку, раз на дзень сілкуючыся заціркай і поснай бульбай. Рыбу, якой у Нарачы было тады зашмат, прадаваў за капейку, сам амаль што не еў...

І Тафілю, жонку Мацея, адразу і канчаткова аглухшую і анямеўшую ад ягонага п'янага кулака, запомніў на ўсё жыццё. Нешта мыкаючы, яна аднойчы павяла мяне ў поле, уручыла серп і пачала вучыць, як трэба жаць жытнія каласы і вязаць снапы. Праз паўгадзіны я выдыхнуўся ад гэтай працы і схаваўся ў цень, пад куст на ўскрайку поля. Расплюшчыў вочы бліжэй да заходу — Тафіля ўсё яшчэ вязала снапы...

**«А вы памятаеце, як у пяцідзясятых гадах прадавалі ікру проста з бочак?»**

І Веранічку памятаю, іхнюю трохгадовую дачушку. Сунуўшы за мурзатую шчочку цукерку — чарговы дачны гасцінец — выводзіла з недзіцячай сур'ёзнасцю: «Добра ў горадзе жывуць — па радыё пяюць і цукеркі ядуць...»

Ужо тады, бышы падлеткам з адносна добраўладкаванай гарадской сям'і, я намагаўся знайсці і не знаходзіў адказу на пытанне, чаму людзі, якія вырошчваюць і жнуць жыта, самі жывуць надгаладзь. І не жывуць нават, а, як пра тое стала вядома пазней, неймавернымі мільёнамі паміраюць...

Да адказу, падаецца, бліжэй за ўсіх наблізілася Украіна, вызначаючы трагедыю страшным словам — генацыд.

У розных краінах і часах, аж да сёняшніх, голад касіў і косіць цэлыя плямёны і народы па розных прычынах, сацыяльных у тым ліку — сухмень, паводкі, войны...

Але толькі бальшавіцкі эксперымент утварыў Галадамор сваідома, у выглядзе сацыяльна-палітычнага акта, атрымаўшага ў савецкіх падручніках назву «ліквідацыя кулацтва як класа» і працягнутага ўтварэннем «новай гістарычнай супольнасці», названай «савецкі народ». Пад знакам, зразумела, сярпа і молата...

Некалькі гадоў таму, калі Украіна ці не ўпершыню на ўвесь свет аплаквала ахвяр той «ліквідацыі» і з усёй моцы выкараняла з сябе «новую гістарычную супольнасць», расійскі істэблішмент з уцягненнем шырокіх мас тэлегледачоў высвятляў, хто з найбольш крывавых гістарычных асоб заслугоўвае стацца Імем Расіі...

Якое ўжо тут прызнанне генацыду?! Ці хаця б прызнанне права Украіны лічыць генацыдам ліквідацыю голадам і ГУЛАГам уласнага сялянства, а за ім і мільёнаў гарадскога насельніцтва...

І такога ж права беларусаў, казахаў ды саміх расейцаў...

Толькі ў гэтым выпадку стане зразумелым і сёняшнім пакаленням, чаму трагедыя камунізму сталася агульным лёсам для ўсіх народаў СССР.

Але замест такога прызнання — халодная вайна тэрмінаў вакол памінання бязвінных ахвяр.

Усяму гэтаму магчыма, напэўна, адшукаць мноства тлумачэнняў. Але адно, на мой погляд, навідавоку. Расія, абвясціўшы сябе па зразумелай гістарычнай логіцы юрыдычнай правапераемніцай СССР, катэгарычным чынам цураецца маральнай адказнасці за свайго папярэдніка, за ягоныя неверагодныя злачынствы. Мабыць, таму, што прызнанне такой адказнасці вымагае не толькі асуджэння гэтых злачынстваў, але і сапраўдны Суд, Ачышчэнне і Выраканне ад бальшавізму.

Але, відаць, генетычна моцная сувязь.

Што ж да афіцыйнага Мінска, то ягоная маўклівая безуважнасць ганебна.

І сапраўды: каму «чарка і скварка», каму — «каласы пад сярпом...»

*kamerton_41@mail.ru*

# Дачка Навуменкі: **У нашай сям’і не магло быць алкаголікаў ці наркаманаў**

**Валерыя Навуменка — дачка народнага пісьменніка Івана Навуменкі. Жанчына не пайшла ў літаратуру, а абрала працу афтальмолага і ўжо 30 гадоў ратуе вочы людзей.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Татавы гены: Валерыя Навуменка так падобная да бацькі, як дзве кроплі вады.**

Валерыя Навуменка падзялілася ўспамінамі з дзяцінства, не абмінуўшы пытанні веры, надзеі і любові.

**«Наша Ніва»: Быць дачкой вядомага пісьменніка — гэта гонар і адказнасць?**

**Валерыя Навуменка:** Маё дзяцінства было самым шчаслівым. Дзяцей у сям’і трое, я самая старэйшая, а яшчэ ёсць малодшы брат Павел і сястра Таня. Калі мне было 4 гады, мы перасяліліся ў пісьменніцкі дом, што насупраць Саюза пісьменнікаў. Да нас у кватэры жыў Іван Мележ. Нашымі суседзямі была сям’я Шамякіных, паверхам вышэй — Ян Скрыган, Янка Брыль, казачнік Васіль Вітка, паверхам ніжэй акадэмік Глебка, а на першым паверсе сям’я Клімковічаў. Мы ўсе былі як родзічы, аднымі з найлепшых суседзяў была сям’я Караткевіча. Пісьменнікі хадзілі адзін да аднаго, збіраліся, выпівалі. Цяпер такога, на жаль, няма. Было вельмі весела на дачы на Лысай Гары, побач мелі хаткі і градкі шмат іншых пісьменнікаў. Літаратары шпацыравалі ўздоўж дач і размаўлялі толькі пра стан літаратуры. З маленства памятаю бацькаву спіну за пісьмовым сталом — за аркушам паперы або з кнігаю.

**«НН»: Як Вас выхоўвалі?**

**ВН:** У садок не хадзіла, а адразу пайшла ў школу, дзе з мяне ўсе кпілі, бо ўсе размаўлялі на расейскай мове. А я па-беларуску была ціхай і высокай, заўсёды сядзела на апошняй парце. Але вучылася добра, скончыла школу з залатым медалём. Я вельмі ўдзячна бацьку, што ён завёў мяне ў спецшколу №24, дзе я выдатна вывучыла нямецкую мову. Школа была нават у нечым панская. Здымалі боты і хадзілі ў зменным абутку. Усім класам націралі паркет, і дзецям гэта вельмі падабалася. Ездзілі на практыку ў Нямеччыну. У школе на нямецкай мове выкладалі літаратуру, быў тэхнічны пераклад, а ў старэйшых класах — ўзбраенне ФРГ, дык я дагэтуль усе субмарыны ведаю. Дысцыпліна была моцная, яе трымала матуля, бацька быў больш мяккі. У нашай сям’і не магло быць алкаголікаў ці наркаманаў, нават калі б было 10 дзяцей. Дзеці заўсёды былі пад наглядам і шмат чыталі.

**«НН»: Выхаванне ў творчым асяроддзі заўсёды ўплывае на інтарэсы дзяцей. Чым Вы цікавіліся і кім хацелі стаць у дзяцінстве?**

**ВН:** Я напачатку хацела ісці на хімфак БДУ, але передумала, бо ў БДУ працавала матуля і гэта быў бы бясконцы кантроль , таму прынцыпова пайшла ў медінстытут. Можа , у нечым я наступіла сваёй «сіняй птушцы» на горла, можа, і трэба было паступаць у лінгвістычны, былі здольнасці ў мяне да мовы, але зноў, як казала мая матуля: «Мова — гэта не прафесія».

**«НН»: Вы калі-небудзь спрабавалі пісаць?**

**ВН:** Ніколі. Я не лічу, што ў сям’і можа быць два ці тры пісьменнікі. Толькі мне споўнілася 7 гадоў, як маці набыла шыкоўнае нямецкае піяніна. Большага здзеку, чым граць эцюды Чэрні для хуткасці пальцаў, мая асоба не ведала. А малодшая сястра Таня, наадварот, настойліва лезла да інструмента і нешта цюкала на слых. Ну так вось атрымалася, што ні музычнага слыху, ні пісьменніцкага таленту не маю.

**«НН»: Якой жа Вы сябе лічыце?**

**ВН:** Я ўвогуле нейкая натура прызямлёная. Люблю чысціню, люблю прыбіраць хату, гатаваць, люблю упарадкоўваць градкі на дачы, каб кветак было шмат — усё такое жаночае. Але заўсёды ненавідзела піянерскія дружыны, піянерскія зборы, гэтыя прымусовыя паходы. Камсамольскую працу не любіла, не магла дачакацца, калі мне споўніцца 28 гадоў, каб на наступны дзень збегаць і здаць камсамольскі білет. Мне трэба было засесці ў самоце з кнігай. А каб я лезла ў нейкі сход ці на трыбуну —гэта не пра мяне.

**«НН»: А як рэалізавалі сябе Ваша сястра і брат?**

**ВН:** З Тацціяны атрымаўся прафесар кафедры гармоніі і сальфеджыа Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, яна доктар мастацтвазнаўства, даслужылася да пасады прарэктара па навуковай працы і загадвае кафедрай тэорыі музыкі. Брат Павел працуе дацэнтам кафедры беларускай літаратуры БДУ.

**«НН»: Былі моманты, калі апускаліся рукі і Вы не маглі нічога рабіць?**

**ВН:** Ну вось я не разлічыла, як маці памірала, гэты перадсмяротны стан быў вельмі складаны. А вось калі захварэў бацька, рукі ў мяне апусціліся, на гэтым стрэсе мяне нават абсыпала. Але я яго ў бальніцу не аддала, мы з маім мужам-хірургам да апошняга яго лекавалі дома. Мой бацька ніколі не ведаў бальніц. Я не разумею людзей, якія аддаюць бацькоў у бальніцы, а яшчэ горш у дамы састарэлых. Мой тата скончыў жыццё ў сваім кабінеце, на сваім ложку, гледзячы на свае паліцы з кнігамі. 17 снежня споўніцца 6 гадоў, як яго няма. Гэта мой найвялікшы боль.

**«НН»: Чаму Вы не любіце казаць пра сваю працу?**

**ВН:** Бо яна вельмі цяжкая, складаная і адказная. Мы кожны дзень робім добрую справу. У дзень можа быць па 36 аперацый у аддзяленні. Гэта не рамантыка. Аперацыя — гэта не проза і не паэзія, пра якую можна казаць і казаць. Гэта цяжкае рамяство.

**«НН»: Можа быць маеце нейкі дыферэнцыяваны падыход у працы да вучняў і пацыентаў?**

**ВН:** Да любога чалавека трэба падыходзіць з добразычлівасцю. Я прапрацавала шмат гадоў, але на мяне ніколі не паскардзіўся студэнт, ніколі не было скарг ад хворых. Калі ты ўдзяляеш увагу чалавеку, цябе заўсёды зразумеюць. На жаль, некаторыя лекары пазіцыянуюць сябе вышэй за Бога, да таго хворага і не падыдуць, праапераце і збяжыць.

Я ніколі да свайго студэнта не звярнуся на «ты», толькі на «Вы». Ніколі не пастаўлю нізкую адзнаку, калі бачу, што чалавек знаходзіцца ў роспачы. Рознае можа быць у жыцці, тое самае няшчаснае каханне, таму недавучыў ці, можа, недаспаў. Нельга не даваць чалавеку шанцу.

**«НН»: Як калегі і студэнты ставяцца да таго, што Вы ўжываеце беларускую мову?**

**ВН:** Не кожны разумее, чаму я люблю беларускую мову, некаторыя калегі адварочваюць насы, нібыта гэта «фі». І мне пляваць, што ў іх гэта «фі». «Навуменка не так выказалася, Навуменка выказалася на беларускай мове» — выказвалася і выказвацца буду. Буду, бо ніколі не было ў сям’і іншага, не было дрэнных слоў. Самае страшнае, што казаў тата, калі быў раз’юшаны, дык гэта: «Сабака». Пра іншыя словы я даведалася толькі ў 5 класе.

## У дзень можа быць па 36 аперацый у аддзяленні — гэта не рамантыка

**«НН»: Як пачалася Ваша гісторыя кахання з мужам?**

**ВН:** Пабачыла я яго першы раз, калі матуля трапіла ў яго палату, дзе ён быў доктарам. Ён хірург, вельмі добры доктар і чалавек, праўда вельмі сарамлівы.

Ён прыйшоў у хату, як маці стаяла ў труне ўжо. Прыйшоў з медсястрой, з якой яна сябравала. Я ўся ў чорным над маткай, слёзы, падымаю вочы, а там ён. Ну з таго часу і пачаў мне тэлефанаваць. А раней маглі на вуліцы прастаяць тры гадзіны ў размовах і нічым гэта не скончалася. Ён паварочваўся і бег кудысьці. Я думала і хвалявалася: «Чым жа я яго пакрыўдзіла?» Хай зараз ведае, што добрыя хлопцы так сябе не паводзяць у дачыненні да добрых дзевак. Ён у мяне любіць хадзіць па кніжных крамах. Нядаўна дала яму грошай, каб ён набыў нешта побытавае, а ён прыйшоў з вялікім пакункам, не набыў што трэба, затое з кнігамі пра Багдановіча, Караткевіча, Шамякіна і Быкава.

**«НН»: Існаваў у Вашай сям’і запавет, якога варта было б прытрымлівацца жанчыне?**

**ВН:** Асноўны запавет вынікае са слоў маткі, якая казала на вяселлі маёй сястры: «Танька, калі я ўбачу, што мой зяць стаіць і прэ пялёнкі майго ўнука, то не жыць табе на свеце». Ёсць мужчынскія абавязкі, а ёсць жаночыя.

**«НН»: Калі б Вас запыталі пра самае лепшае, чаму Вы навучыліся ў жыцці, што б Вы адказалі?**

**ВН:** Мяне, можа, жыццё яшчэ нічаму і не навучыла. Я ўдзячна Богу, што нарадзілася ў сям’і сваіх бацькоў. Больш за ўсё люблю сваю кватэру і дачу на Лысай гары. Я праехала ўсю Еўропу, але лепшых за родныя мясціны не знайшла. Жыццё навучыла мяне шчыра любіць Беларусь. А яшчэ нас заўсёды вядзе Бог. Ніколі не трэба баяцца выказвацца. Ніколі нікога не трэба баяцца. Трэба людзей ставіць на месца, калі яны табе на галаву лезуць.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Валерыя Навуменка**

нарадзілася ў 1959 у Мінску. Дачка пісьменніка Івана Навуменкі. Скончыла Мінскі медінстытут (1982). Урач-афтальмолаг, кандыдат медыцынскіх навук. Працуе на кафедры вочных захворванняў Беларускага дзяржаўнага медуніверсітэта. Замужам.

# Разабраў дом рабіна і вывез у ЗША

У Мінску **судзяць кіраўніка Іўдзейскага рэлігійнага аб'яднання** Юрыя Дорна.

«Грамадзянскім пазоўнікам грошыкі не патрэбныя, відаць», — пачаў працэс суддзя Ясяновіч. Гэтак ён адрэагаваў на адсутнасць пацярпелых на судзе. «Сведкі вялікага жадання ехаць сюды не маюць. Вось няхай іх Следчы камітэт і возіць», — рэзюмаваў суддзя. Маўляў, гэта не ён іх «далучаў» да справы. І гатовы пад канвоем дастаўляць іх у Мінск, нават з Воранаўскага раёна, дзе некаторыя і жывуць.

Юрыя Дорна вінавацяць у «Атрыманні хабару», «Перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў», «Ухіленні ад выплаты падаткаў», «Крадзяжы або пашкоджанні дакументаў, штампаў, пячатак», «Службовым падлогу».

**Ісраіль Мэір Пупко (Хафец-Хаім, 1838-1933)**

Буйны рабін, алахіст і мараліст. Духоўны лідар яўрэйства Польшчы, Расіі, Беларусі. Нарадзіўся ў Дзятлаве. Стаў вядомы ў свеце па назве сваёй самай папулярнай кнігі «Хафец Хаім» («Які прагне жыцця»). У Радуні стварыў ешыбот, не браў грошы за свае рабінскія абавязкі. Памёр у Радуні.

На судзе ён выглядае бадзёра. Нават усміхаўся, нягледзячы на тое, што ўжо дзевяць месяцаў знаходзіцца ў ізалятары. «Віну не прызнаю цалкам», — заявіў ён. Але пачуць тлумачэнні атрымаецца хіба толькі ў канцы месяца. Дорн скарыстаўся правам быць дапытаным толькі пасля апытання ўсіх сведак.

На галаве ў Дорна — ярмолка, гэткі сімвал яўрэйскай рэлігійнасці. Адметна, што судзіць



**Будынак Іўдзейскага аб'яднання. Па версіі следства, месца здзяйснення большасці злачынстваў.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

яго пачалі на трэці дзень Ханукі, іўдзейскага «свята вогнішчаў». Яго інтарэсы ў судзе прадстаўляюць два адвакаты. Адзін з іх — Аляксей Ярмошын, сын кіраўніцы Цэнтравыбаркама Беларусі Лідзіі Ярмошынай.

Затрымалі Юрыя Дорна 13 сакавіка, калі той атрымаў «грашовае ўзнагароджанне» ў 13 тысяч 810 даляраў. Гэта грошы нібыта за вырашэнне пытанняў, што ўваходзілі ў яго кампетэнцыю на пасадзе кіраўніка Іўдзейскага рэлігійнага аб'яднання. Але гэта адзін з эпізодаў. Па версіі следства, Дорн яшчэ ў 2001—2002 адзначыўся. Ён разабраў і вывез з пасёлка Радунь праз Літву ў ЗША дом вядомага духоўнага лідара яўрэйскай грамады, рабіна Хафеца-Хаіма. Каб атрымаць будынак, ён выкупіў у пасёлку некалькі кватэр, якія і абмяняў на той дом. Па версіі абвінаваўцы, злачынства ў тым, што Юрый Дорн ад імя аб'яднання заключаў дамовы, а насамрэч рабіў тое без рашэння праўлення. І не перадаваў дакументы ў бухгалтэрыю.

Наступны эпізод датычыцца 2005—2012. Дорн заключаў дамовы на арэнду памяшканняў, што належаць Іўдзейскаму таварыству. А рабіць гэтага не меў права. Дзясяткі такіх дамоваў, сотні квадратных метраў пад офісы і склады. Каб назваць кожны, абвінаваўцы давялося пералічваць іх амаль дзве гадзіны. Разам з тым, за некаторыя памяшканні ён браў грошы ў канвертах і не дэклараваў атрыманыя сумы. Ад няплаты падаткаў нанесеная шкода дзяржаве на 94 мільёны рублёў.

«Перадайце яму, што мы молімся за яго», — прасіла жанчына, якая прыйшла на працэс, але падысці да абвінавачанага ёй не дазволілі. «Трымайцеся там», — пажадаў жонцы сам Дорн. Суд, як мінімум, будзе цягнуцца да сакавіка.

**Сяргей Макарэвіч**



svaboda.org (RFE/RL)

**Юрыя Дорна абараняе сын Лідзіі Ярмошынай.**

## На мадэрнізаваным камбінаце Чыжа — уцечка аміяку

7 снежня на маладзечанскім мясакамбінаце здарылася надзвычайная сітуацыя. Адбылася ўцечка пароў аміяку з нявыкарыстанага абсталявання. Давялося нават эвакуяваць работнікаў суседніх з камбінатам прадпрыемстваў.

Спачатку людзі пачулі непрыемны пах. Затым стала цяжка дыхаць, з'явіўся кашаль, пачалі цячы слёзы. Каб прайсці па вуліцы Гарадоцкай, дзе знаходзіцца прадпрыемства, людзі вымушаны былі закрываць нос, рот.

Пацярпелі чатыры чалавекі — работнікі мясакамбіната. Адзін з іх быў шпіталізаваны. Гэта машыніст, які зайшоў у памяшканне халадзільнай камеры, каб паглядзець на крыніцу непрыемнага паху. Убачыў, што з вентыля на трубаправодзе адбываецца ўцечка. Мужчына паспрабаваў закрыць яго, але не здолеў: вентыль сапсаваўся. Усе чацвёра атрымалі лёгкае хімічнае атручванне. Калі прыехалі выратавальнікі, яны зафіксавалі ў лядоўні перавышэнне дапушчальнай канцэнтрацыі пароў у 20 разоў. Па-за будынкам — усё ў норме.

Адметна, што маладзечанскі мясакамбінат належыць кампаніі «Трайпл-Велес», уладальнікам якой з'яўляецца адзін з найбагацейшых беларусаў Юрый Чыж. На прадпрыемстве ў 2009-м была праведзена мадэрнізацыя тэхналагічных працэсаў і рэканструкцыя будынка. Але мадэрнізацыя закранула, як аказалася, не ўсё абсталяванне.

Для Маладзечна падобныя здарэнні не ў навіну. Летась, 21 мая, уцечка аміяку здарылася з халадзільнай устаноўкі масласырбазы. Тады таксама чатыры работнікі былі шпіталізаваныя з атручваннем.

**Кастусь Матушыч**



**9 снежня ў Баранавічах сышлі з рэек тры вагоны грузавога цягніка. Прычына здарэння — самарасчэп вагонаў. Цягнік перавозіў жалезабетонныя вырабы і вугаль. Ніхто не пацярпеў. Вагоны моцна пашкоджаныя.**

## Сцісла

### Арыштаваны кіроўца «Поршэ Каен»

Мужчына, які насмерць збіў 9-гадовага хлопчыка каля сталічнай школы №23, узяты пад варту. Яго вінавацяць у парушэнні правілаў дарожнага руху, што па неасцярожнасці пацягнула смерць чалавека. Кіроўцу пагражае да пяці гадоў турмы.

### Замовіў кілеру свайго бацьку

20-гадовы хлопец замовіў забойства свайго бацькі-бізнэсоўца і бабулі з Гомеля. У ролі кілера выступіў ягоны сябра. Той забіў мужчыну і яго маці, а затым падпаліў іхні дом. Думаў такім чынам знішчыць трупы. Пасля смерці родных нядбайны сын меркаваў атрымаць спадчыну. За забойства ён паабяцаў сябру пару тысяч даляраў.

### Нелегалы пад днішчам фуры

Сямёра в'етнамцаў затрыманыя пры спробе нелегальна перайсці беларуска-польскую мяжу. Чацвёра з іх для гэтага схаваліся пад днішчам фуры — умела скампанаваліся на запасных колах і шасі паўпрычэпа. Кіроўца нават нічога не заўважыў. Яшчэ трох в'етнамцаў затрымалі каля памежнага пункта. Выявілася, што ўсе сямёра прыехалі з Масквы, каб трапіць у Еўрасаюз.

### Гадзіннік ад падводкі

У «Аўдзі» з расійскімі нумарамі беларускія памежнікі выявілі гадзіннік ад падводнай лодкі. Памежнікаў насцярожыла перавышэнне ў дзесяць разоў дапушчальнага ўзроўню радыяцыі. Кіроўца расказаў, што атрымаў такі падарунак з радыем-226 ад сваяка ў Хмяльніцку — вайсковага пенсіянера.

### Арыштаваныя 29 мытнікаў

У Літве затрыманы 29 мытнікаў кантрольна-прапускнога пункта «Мядзінінкай» (Меднікі), размешчанага на мяжы з Беларуссю. Яны падазраюцца ў тым, што бралі з кіроўцаў фур па 20—40 літаў (60—120 тысяч рублёў) для хутчэйшага праходжання тымі мяжы. Сярод пацярпелых — і беларускія кіроўцы.

### Шасцікласнік скончыў жыццё самагубствам

12-гадовы падлетак з Магілёва выскачыў з акна сёмага паверха кватэры і разбіўся. Хлопчык выхоўваўся ў паспяховай сям'і, лічыўся найлепшым вучнем у класе. Прычыну такога ўчынку падлетак назваў у перадсмяротнай запісцы. Але следчымі яе змест не агучваецца.

**КМ**

# Таямніца забойства сястры Максіма Танка

...Фарба на агароджы гэтай магілы на Касцяневіцкіх могілках амаль злупілася. Вакол агароджы высечана кустоўе. Але ўнутры — не. Даводзіцца пачысціць самому. Касцяневіцкія людзі глядзяць свае клады, але на самой магіле павінны чысціць сваякі. А няма каму.

«Скурко Вера, жыла 24 гады. І сын Яраслаў, жыў 2 гады. Памерлі ў 1943 г.» Ні слова больш.

Так сёння выглядае магіла роднай сястры паэта Максіма Танка (Яўгена Скурко). Адшукаць яе ўдалося толькі з другога разу.

Фортка агароджы намёртва закручаная ржавым балтом. Помнік парастае мохам. На магіле — штучныя кветкі.

«...Веры абгародку паставілі ў Касцяневічах, памагаў шафёр, я яму за гэта заплаціў», — пісаў брат Фёдар да Танка 22 чэрвеня 1973.



Яўген і Вера Скурко. Масква, 1922.



Вера (стаіць) з сястрой Мілай і бабуляй Уллянай. Першая палова 1930-х.

Вера — маладзейшая за Максіма Танка. Мяркуючы па надпісе на помніку, яна нарадзілася ў 1918 ці 1919. У студзені 1938-га выйшла замуж за Браніслава Лётку, на хутар побач з вёскай Сэрвач (Вялікая Сэрвач) недалёка ад Касцяневічаў. Той хутар купіў Браніславаў бацька з грошай, зробленых у Амерыцы.

Захаваўся вясельны здымак. На ім — Вера ў шлюбнай белай сукенцы, побач малады — бы асілак.

Існуюць дзве версіі смерці жанчыны і яе малога сына.

### Версія афіцыйная

Яўген Іванавіч у сваіх дзённіках 12 студзеня 1973 запісаў: «Пісьмо ад Федзі. Піша, што памёр наш швагер Браніслаў Лётка. Страшную трагедыю перажыў ён і ўся наша сям'я. У час вайны нейкі гмінны службіст загадаў Браніславу адвезці яго ў Куранец, а па дарозе іх абстралялі партызаны, здаецца, з атрада «Народны мсціўца» і захапілі ў палон гэтага службіста. «Хто цябе падвозіў?» — «З Сэрвачы Лётка». Тут жа расправіліся з ім і з сем'ямі братоў Лёткаў: забілі сястру Веру і яе двухгадовага сына, забілі швагерку з дзесяцігадовым сынам. А мужыкі іх — ацалелі. Былі ў суседняй вёсцы. Калі вярнуліся — засталі адны папялішчы. Потым браты былі мабілізаваны, прайшлі з баямі праз усю Польшчу, штурмавалі Берлін...»

Танк піша, што ў той справе «быў замешаны нявераўскі «Папок», які, будучы партызанам, займаўся рабункам. Пасля вайны нейкі час працаваў брыгадзірам у калгасе. Але за тое, што біў людзей, яго судзілі. Сястра яго доўга распрадавала нарабаванае ім дабро...»

### Страшная праўда

Праўда жыцця была яшчэ страшнейшай за гэтую падрэтушаваную, літаратурную. Яе перадавалі з вуснаў у вусны землякі Танка.

Неяк увечары мужчынская палова Лётак пайшла на суседні хутар гуляць у карты. Была ўжо ноч, калі прыйшлі на Лёткаў хутар партызаны. Шукалі яны золата, якое нібыта далі Веры ў пасаг бацькі. (Яны былі заможныя, калі прыйшлі саветы ў 1939-м. Стаяла нават пытанне пра іх раскулачванне.)



Магіла Веры Скурко.

Мучылі партызаны жанчын, але золата не знайшлі. Ці то яго і не было, ці то не аддалі гаспадыні. Не думалі жанчыны, што бандыты не захочуць пакідаць сведкаў. Забілі ж Веру з дзіцем і астатніх сякерамі — каб без шуму, без стрэлаў...

Мужчыны з суседняга хутара бачылі агні ліхтароў на сваім дварышчы, але не пабеглі туды. Падумаць не маглі, што там робіцца...

Праз некалькі дзён на хутар бацькоў Веры ў Пількаўшчыне заязджалі партызаны. Адзін з коней быў як папонай укрыты пасажнай хатняй посцілкай. У кожнай гаспадыні яны былі на свой узор, вось маці і пазнала даччыну. Домна Іванаўна кінулася пытаца: адкуль жа ў вас посцілка маёй дачушачкі...

На той момант маці яшчэ не сказалі пра смерць дачкі. А бацька Іван Хведаравіч усё ўжо ведаў. Янук жонку за руку схапіў і не пусціў да ваякаў: не наша гэта посцілка, ты блытаеш...

Пазней да бацькоў прыязджаў партызанскі камандзір, а пасля вызвалення Беларусі — намеснік старшыні Вілейскага аблвыканкама Фёдар Маркаў. Ён вініўся і быў гатовы расстраляць забойцаў Веры і яе сям'і проста на вачах бацькоў — варта было толькі назваць імёны. Але стары не захацеў новай крыві, сказаў: «Хай Бог разбіраецца». Хоць імёны забойцаў не былі сакрэтам у наваколлі.

Пра смерць сястры Максіму Танку ў маі 1944-га расказаў той самы Маркаў.

Вось так было. Нацысты не зачапілі сям'і камуністычнага паэта, кроў пралілі затое лясныя бандыты, па-іншаму іх не назавеш.

### След прапаў

Магіл з прозвішчам Лётка на Касцяневіцкіх могілках няма. З гэтага роду ніхто тут не застаўся, а старыя камяні паўязджалі ў зямлю.

Як склаўся лёс Браніслава Лёткі пасля штурму Берліна? Пасля Другой сусветнай Браніслаў знайшоў спосаб застацца ў Польшчы. Максім Танк, расказваюць сваякі, нават бачыўся з ім падчас замежнай камандзіроўкі. Але пра гэта ў запісах самога Яўгена Іванавіча ні слова.



Браніслаў Лётка і Вера — вясельнае фота. Вільня.

«Гэта лішняе», — так казалі старыя пісьменнікі.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### У Мінску адчынілася выстава World Press Photo

Выстава World Press Photo, сусветнага конкурсу фатаграфіі, штогод праходзіць у ста гарадах розных краін. У Беларусі ж найлепшыя фотаздымкі з усяго свету экспануюцца ўпершыню. На адкрыццё выставы ў Мінск прыехаў адзін з лаўрэатаў World Press Photo Аляксандр Гронскі. Пабачыць 158 здымкаў з ліку пераможцаў конкурсу можна ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (Мінск, пр-т Незалежнасці, 37а) да 24 снежня.

### Памёр Антон Сабалеўскі

Быламу вайскоўцу было 86 гадоў. Нарадзіўся ў Глыбокім, але паўстагоддзя жыў у расійскай сталіцы. У 1989 годзе Антон Сабалеўскі быў сярод заснавальнікаў маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Скарыны — найстарэйшай дзеючай арганізацыі беларускай дыяспары ў Маскве. У тым ліку дзякуючы ягоным намаганням у Белакаменнай паўстаў помнік Янку Купалу.

**СМ, Алесь Чайчыц**

# Бяда для вёскі: адмянілі аўтобус

Мы будзем плаціць **за поўны квіток** і за багаж, толькі б хадзіў аўтобус.

У нашай вёсцы Еўнена Полацкага раёна 20 жылых двароў. 51 чалавек — дачнікі, а яшчэ 9 жывуць у вёсцы стала. Ад 1 жніўня мы пазбавіліся рэйсавага аўтобуса. Звярталіся ў Полацкі райвыканкам — усе адказы аднолькавыя: разабрацца на месцы. А які чыноўнік супрацьпаставіць сябе вышэйстаячаму?

Жнівень-верасень мы з участкаў павінны былі цягнуць на сваіх плячах гародніну да вёскі Белаводка.

Можна было вырашыць пытанне інакш. Зрабіць рэйсы аўтобусаў не штодзённа, як гэта было, а радзей — па выхадных, зранку ў суботу і ўвечары ў нядзелю, і толькі адзін рэйс у сераду — зранку і ўвечары, такія рэйсы робіць аўтобус да Белаводкі, засталося толькі падоўжыць гэтыя рэйсы на 2 км да Еўнена, і пытанне для нас вырашанае, але на гэтую драбніцу не пагаджаюцца мясцовыя ўлады.

Звярталіся ў Полацкі аўтобусны парк №2, райвыканкам і Віцебскі аблвыканкам, пасылалі звароты з подпісамі. Што здзіўляе і ўражвае, дык гэта паўнютказ абыякавасць да гэтых зваротаў. Галоўны аргумент — пратакол пасяджэння Міністэрства транспарту. Няўжо мы ва ўзросце 60—70 гадоў яшчэ недаатрымалі цяжкасцяў? Нам лягчэй плаціць за поўны квіток, чым 2—3 км цягнуць на сабе гародніну.

Калі ў Полацкім аўтобусным парку №2 такое цяжкое становішча з тэхнічным рамонтам і складам кіроўцаў, а датацыі ўсяго толькі 16%, а трэба сама меней 50%, то навошта нам гэтая зніжка 50% на аплату праезду ў летні перыяд для пенсіянераў. Мы будзем плаціць за поўны квіток і за багаж, толькі б хадзіў аўтобус.

24 кастрычніка я і Скрыпкіна Т.Н. прыйшлі ў Полацкі райвыканкам на рашэнне нашага набалелага пытання. Старшыні не было, прымаў Грыбовіч І.Ф., старшыня раённага Савета дэпутатаў, была запрошаная з аўтобуснага парка №2 Тамара Іванаўна з аддзела перавозак. Выслухаўшы нас і Тамару Іванаўну, вырашылі адмовіць нам у чарговы раз і з усмешкамі сышлі.

Вёска Еўнева захавалася дзякуючы аўтобусным маршрутам, дамы набывалі пад дачныя ўчасткі полацкія і наваполацкія жыхары. Перасяляцца старым людзям у аграгарадкі цяжка, і яны ўвесь час цікавяцца, якія ў нас поспехі ў перамовах з уладай наконт аўтобуса.

І калі скончыцца гэтае непаразуменне паміж чыноўнікамі і простымі людзьмі?

**Людміла Савіцкая, Еўнена, Полацкі раён**

# Беларускі рубель упадзе?

Піша **Руслан Равяка**.

Адчуванне непазбежнага падзення рубля нябачнай хмарай вісіць каторы месяц над краінай. Пра гэта не кажуць наўпрост па тэлебачанні, не пішуць у дзяржаўных газетах, але пра гэтае адчуванне блізкага абвалу раскажа табе кожны жыхар Беларусі.

Гэтыя чуткі ўзрастаюць у выніку закрытасці беларускай сістэмы.

Адмена выдачы крэдытаў на куплю жылля, рост цэнаў, закамянелыя курсы валюты, тупіковыя адносіны з Захадам. Нашыя людзі не звыклыя супастаўляць меркаванні розных палітыкаў, экспертаў і эканамістаў, а таму нікому не даюць веры, спрабуюць самі даць сабе рады. Нехта здымае беларускія рублі з дэпазітаў, нехта купляе валюту і кладзе яе ў банк. Ёсць адчайныя, якія спрабуюць згуляць на стаўцы рэфінансавання і самастойна кладуць свае грошы на кароткатэрміновыя дэпазіты ў малыя банкі.

Напярэдадні замарозкі крэдытавання на набыццё жылля я ў сябе ў Баранавічах у аўтобусе чуў, як адзін дзядок хваліўся, што ягоны сын паспеў у Мінску ўзяць крэдыт на кватэру ў рублях.

Другі з ім пагаджўся, маўляў, сапраўды пашчасціла, бо гэта ж вось-вось і такія крэдыты банкі перастануць, відаць, даваць, а праз год невядома што будзе і з тым рублём. Леташні дэфолт добра запомніўся беларусам. А старэйшыя ж не забылі 1994-ы, 1999-ы гады, калі зайчык таннеў за год у разы і дзясяткі разоў.

Дробныя даляры і еўра цяпер цяжэй знасці ў абменніках.

Банкноты па 5—20 даляраў скупляюць старыя пасля атрымання пенсіі і аплаты камунальных плацяжоў. Больш важкія сумы яны проста не могуць набыць. У валютчыкаў драбязза прадаецца крыху даражэй за буйныя банкноты.

Усё часцей у народзе абмяркоўваецца і перспектыва валютнага рынку. З выглядам знаўцаў людзі дыскутуюць пра тое, што хутчэй лясне: даляр ці еўра? Перадачы беларускага і расейскага тэлебачання пераводзяць увагу менавіта на гэта, вось і вынік.

«Беларускі рубель ненадзейны, лёс еўра і даляра зусім няпэўны, пераводжу ў золата ўсё, што сабрала на свае хаўтуры, унукі хоць змогуць годна пахаваць», — казала мне нядаўна адна бабулька ў чарзе па танную курыную кілбасу.

А многія толькі наракаюць, але нічога больш не робяць. Толькі чакаюць і пытаюцца: «Што ж гэта будзе? Ці праўда, што пры канцы года ўсё ізноў лясне?» Сваю бяз-дзейнасць людзі тлумачаць тым, што ім папросту няма чаго ратаваць — маўляў, мільёна даляраў не маю, а тое, што ёсць, не варта таго клопату. Неяк жа будзе.

*Баранавічы*

# Беларуская глыбіня. **Катакомбы Купліна**

Піша **Павел Севярынец**.

*...Схаваліся ў пячоры і ў цясніны гор,*
*І кажуць гарам і камяням:*
*упадзеце на нас і схавайце нас*
*ад аблічча Таго, Хто сядзіць на троне,*
*і ад гневу Гасподняга*
*Адкрыццё 6:15-16*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Куплін* — адна з нямногіх назваў, якія ўзніклі на мапе Беларусі дзякуючы незалежнасці. У СССР Купліна не было, а тым, хто цікавіўся, куды ж правалілася родавае гняздо самага плоднага пісьменніка ў свеце Юзафа Крашэўскага, раілі прыкусіць язык, у іншым выпадку адпраўляць туды, дзе «ўсякія крашэўскія» заканчвалі.

Нават цяпер усюдысны джыпіэс толькі робіць выгляд, што Куплін ведае: прыемны жаночы голас кідае аўто вандроўнікаў то на грунтоўкі, то на затравелыя прасёлкі, то ў ямы бруду. А хто ўсё-такі заехаў у зарослыя, вышчарбленыя руіны — і не здагадваецца, што апынуўся не ў забытай беларускай вёсцы, а на вяршыні цэлага падземнага горада.

## Горы бункераў, скалы жалезабетону

Пасля Карыбскага крызісу менавіта тут, у беларускай глыбіні, вакол колішняга аэрадрома, разбомбленага немцамі ў першы ж дзень вайны, імперыя рыхтавалася нанесці ўдар па ўсім астатнім свеце. Звышсакрэтны пункт сувязі Варшаўскай дамовы, ракеты, палі антэнаў, бэтээры, верталёты, самалёты — усю сваю магутнасць Савецкі Саюз сціскаў у браняваядзерны кулак у глухой прорве за Белавежскай Пушчай — хай толькі прыдзе час!..

І час прыйшоў.

Тут, у гэтым месцы, палеская раўніна з пералескамі раптам сутаргава здрыгаецца. Горы бункераў. Лагчыны. Скалы жалезабетону.

Менавіта ў Купліне прарываўся з-пад зямлі, ярасна роў, грыз і ўздыбліваў узгор'і агромністы звер з *таго свету*. Курганы, растрэсканыя ад удараў знізу, зеўраюць жэрламі, зуб'ем раскрышанага бетону і вострай арматуры. Мёртвай сырасцю і тленнем тхне з гэтых гіганцкіх нораў.

На кіламетры вакол — паўзасыпаныя акопы, каналы, зарослыя мохам ды ўзламаныя выбухамі кустоўя асфальтавыя пляцы, кінутыя, пачарнелыя генеральскія альтанкі... Толькі дагэтуль на восені сыплюцца, то адзіночнымі, то з парывам ветру, чаргою, грукаюць у зямлю, спраўджваюць закон сусветнага прыцягнення яблыкі з дрэваў, зарослых падлескам.

Падсвечваеш ліхтарыкам, мабільнікам, забіраешся ў засыпаныя выбухамі эмчээснікаў, а потым адкапаныя прагным беларускім народам пячоры — і заміраеш ад страхавітага захаплення. Вялізныя залы з рабрыстымі паўкруглымі скляпеннямі па 8—10 метраў вышынёй, са сценамі трупнага адценя, з бетоннымі траншэямі да пояса (як сведчаць мясцовыя, былі запоўненыя броняванымі кабелямі, з жыламі ў руку, медзь, тры даляры кіло)... Ёмішчы, дзе стаялі гіганцкія рухавікі, пліты, лядоўні... Падземныя галерэі на сотні метраў... Усё выбрана, выламана, вышчарблена — і нема...

Калі вялікая армада адпаўзала адсюль назад, у нетры імперыі, у вайсковым гарадку пакінулі толькі вартаўніка.

І вось тут беларускі народ адарваўся напоўніцу за акупацыю, русіфікацыю, страх і прыніжэнне. Партызанскія групы пружанцаў з усяго навакола перабежкамі атачылі калісьці недаступную крэпасць, сціскаючы ў руках «фугасы» чарніла... Хвіліна — і вартавы ціхаціха абяцае нічога не бачыць.

І вывозілі, выносілі, цягнулі пушчанскія мсціўцы — лядоўні са сталоўкі і стэлажы з бібліятэкі, сталы з бункера і свяцільні з бамбасховішча, дываны з кабінетаў і засаўкі з прыбыральняў... Прытарабанвалі акумулятары, каб свяціць пад зямлёй цэлы дзень, санкі для цэглы, вёдры для балтоў і гаек... Рэзалі, пілавалі, выдзіралі з мясам, нішчылі — а, халера на вас, таварышы камуністы, як дратавалі вы нашу зямлю, нашу вёску, наш лес — да голага каменя.

Трохпавярховую казарму, што стаяла за сённяшняй камендай і на тарцы якой мясцовыя ўмельцы збудавалі Холмскую браму Брэсцкай крэпасці з вышчарбінамі ад куляў, вайскоўцы самі збурылі танкам Т-72, згрэблі, згрудзілі ў вырвы катлаван — каб хоць гэта не пакінуць тутэйшым.

І засталіся толькі сутаргі вялізных земляных гарбоў, чорныя, затхлыя горлы, жылы тросаў ды запеклыя пацёкі ржаўчыны. Аграмадны напаўвырыты труп.

Наш электрык Ігар уздзіраў падлогу ў адным з бункераў (дошка-саракоўка, не прападаць жа дабру), знайшоў бутэльку з-пад сітро, 1969 года, з запіскай двух салдатаў з хатнімі адрасамі. Напісаў абодвум, ніхто не адгукнуўся.

Часам у ваколіцах Пружанаў пачуеш уздых пра Савецкі Саюз: «Эх, была дзяржава... Усе баяліся!» І расхінаюцца ў душы пячоры, робіцца гулка ў галаве, і разумееш. Адтуль. Вось яно, падземнае рэха крышанага бетону і ржавага жалеза. Пустата падземнага Купліна насцярожвае. Гэтак жа, як і вайсковая форма старшыняў аблвыканкамаў, прызначаных генераламі. «Мы ответим на ПРО»... Пра што гэта яны? Ды ўсё пра тое ж.

Яны ўсё яшчэ адкрытыя, гэтыя ўваходы ў пекла. Яны пазяхаюць у чаканні. Яны не зачыняюць сваіх кратовых ратоў.

Тое, што не пахавана, бяссіла і бессаромна зеўрае ў неба. Разлагаецца. ЗАРАЖАЕ.

Велізарныя куплінскія катакомбы — гатовы музей для аблупленых ленінаў, гранёных шклянак, расстрэльных загадаў, крывавых сцягоў, усіх выкапняў, помнікаў і сведчанняў той, яшчэ не пахаванай эпохі, калі чалавецтва вырашыла жыць без Бога.

*Куплін*

# Слова ў эфіры для Беларусі

Хто з Вас, дарагія чытачы, глядзіць Беларускае тэлебачанне, падніміце, калі ласка, рукі! А слухае Беларускае радыё? Ясна, дзякуй.

А хто глядзіць «Белсат»? А слухае «Еўрарадыё»? Прадказальна.

Кінуўшы вокам на вялізныя гмахі, якія належаць Белтэлерадыёкампаніі і паўзіраўшыся ў шчыльны паток таленавітых і паспяховых, смелых і прынцыповых супрацоўнікаў гэтай арганізацыі, давайце цяпер — калі Вам цікава — зірнём, адкуль да жыхароў Беларусі даходзіць праз тэле- і радыёэфір альтэрнатыўная інфармацыя. Для гэтага прыйдзецца адправіцца за заходнюю мяжу краіны. Скарыстаўшыся нагодай перабывання ў Польшчы, не магла не пабываць у рэдакцыях электронных СМІ, якія вяшчаюць на Беларусь.

### «Белсат»: у «слімаку» і пры «Кабарэце старшых панув»

Шукаць «Белсат» трэба ў Варшаве, прычым у двух месцах. Дырэкцыя канала і студыі, дзе здымаюцца некаторыя перадачы, месцяцца ў шыкоўным сучасным будынку сядзібы Польскага грамадскага тэлебачання TVP па вул. Вароніча, 17, што побач са станцыяй метро Вежбна. Будынак гэты ў архітэктурным сэнсе можа даць фору самым экстравагантным будынкам свету; варшавяне часта называюць яго «слімаком». Яшчэ адна пляцоўка «Белсата», дзе з гэтай восені штодня рыхтуецца і выходзіць у эфір «Студыя «Белсат» — трохгадзінны блок актуальных навін і каментароў у жывым эфіры, — знаходзіцца ў старым будынку TVP на пляцы Паўстанцаў, у самым цэнтры горада. Частка яго была збудавана яшчэ да вайны. Акурат тут ішлі вельмі інтэнсіўныя баі падчас паўстання 1944 года, і таму мала што захавалася. На будынку вісіць шыльда, што на гэтым месцы ў 1918 г. стаяў будынак, дзе пасля нямецкай турмы жыў Юзэф Пілсудскі. Значыць, тут усцяж вітае ягоны дух...

На сценцы будынка месціцца і яшчэ адна мемарыяльная шыльда пра тое, што з гэтага будынка ішоў у эфір «Кабарэт старшых панув» — неймаверна папулярная тэле- і радыёперадача канца 1950-х — 1960-х гадоў.

А вось перадачы «Белсата» рыхтуюць у большасці сваёй маладыя спадары, спадарыні і спадарычны. У Польшчы штат супрацоўнікаў канала — 32,5 чалавека. Зразумела, каб забяспечыць паўнавартаснае вяшчанне, гэты калектыў працуе вельмі інтэнсіўна.

Большасць супрацоўнікаў, якія працуюць тут, маюць вельмі добрую адукацыю, атрыманую не ў Беларусі: сярод супрацоўнікаў паліттолагі, культуролагі, філолагі...

Моцны бок «Белсата» — выдатныя экранныя вобразы вядучых інфармацыйных перадач. Нармальныя, вясёлыя, энергічныя людзі, і вочы разумныя. Дзяўчаты элегантныя, хлопцы мужныя. (А то пры поглядзе на вядучых-жанчын дзяржаўных каналаў раз-пораз чамусьці ўспамінаюцца наглядчыцы ў канцлагерах, а калі глядзіш на мужчын-вядучых — афіцыянты ў рэстаране.)

А досведу моладзь яшчэ набярэцца.

Моцны бок таксама — дакументальныя фільмы.

У Беларусі «Белсат» акрэдытацыі не мае: кожны раз, калі канал падаваў дакументы на акрэдытацыю, улады прыдумвалі нейкія фармальныя «адмазкі», каб не акрэдытаваць яго. Але ж пры гэтым, са слоў прэс-сакратара канала Сяргея Пялесы, каля ста чалавек супрацоўнічаюць з «Белсатам» унутры краіны. Нягледзячы на пэўны ціск, улады ўсё-такі дазваляюць каналу працаваць у Беларусі. Чаму? Сяргей Пелеса смяецца: «Ну, можа, нас не лічаць асабліва небяспечнымі, а можа, у нас ёсць магутныя прыхільнікі...»

Згодна з сацыялагічнымі даследаваннямі на замову «Белсата», 20% беларусаў маюць доступ да спадарожнікавага тэлебачання, каля 500 тысяч глядзяць «Белсат» рэгулярна, а яшчэ паўмільёна — час ад часу.


«Белсат» знаходзіцца ў шыкоўным «слімаку» TVP.


Якасць эфіру залежыць ад працы дзясяткаў людзей.


«Еўрарадыё» арыентуецца на моладзь.


На радыё «Рацыя» ў Беластоку працуе 70 чалавек.

### «Еўрарадыё» ў асабняку

А вось у «Еўрарадыё», відаць, перасцерагаюцца, што да мяжы шкоднасці яны ўжо наблізіліся. Гэта самая «законспіраваная» рэдакцыя з тых, што я наведала. Менеджарка рэдакцыі, якая расказвала пра дзейнасць радыё, папрасіла не называць яе прозвішча.

Месціцца «Еўрарадыё» ва ўтульным арандаваным асабнячку ў ціхім варшаўскім раёне Макотаў.

Ідэя стварэння гэтай радыёстанцыі з'явілася пасля таго, як беларускія ўлады ў 1996 г. закрылі радыё «101,2». Пасля гэтага былі розныя спробы каманды людзей, з «101,2» зрабіць радыё для Беларусі, якія ўрэшце ўвасобіліся ў «Еўрарадыё». Адна з вялікіх задач, якую сабе ставіць рэдакцыя, — праца з моладдзю. Спосаб працы: «Даваць дакладную інфармацыю, спрыяць фарміраванню ў моладзі грамадзянскай пазіцыі», — кажа менеджарка.

Моцны акцэнт у працы — музычныя перадачы, сучасная музыка.

У Беларусі акрэдытаваны карэспандэнцкі пункт і асобныя карэспандэнты (на сёння — 10 чалавек). Карэспандэнты «Еўрарадыё» вельмі моцныя і працуюць аператыўна. Напрыклад, пра тое, што мадам Ярмошына раіць жанчынам варыць боршч, а не шастаць па плошчах, грамадства даведалася менавіта дзякуючы «Еўрарадыё». Рэпартажы і матэрыялы актыўна передрукоўваюцца іншымі СМІ.

Вялікая ўвага надаецца працы ў сацыяльных сетках, дзе ў радыё больш за 17 тысяч кантактаў. Ёсць адмысловая асоба, якая адказвае за працу ў сетках. І гэта таксама дае эфект. Напрыклад, пра бойку пасажыраў аўтобуса на прыпынку на Нямізе з міліцыянтам стала вядома ад карыстальніцы Твітара, і так пра гэта даведалася ўся Беларусь, выпадак набыў вялікі рэзананс.

«Наша задача: паказаць, што беларускае — гэта сучаснае. І паказаць, што Беларусь уключана ў сучасныя працэсы. Гэта не гета і не скансэн, — кажа адна з кіраўнічак радыё. — Мы ўпэўненыя ў доўгай будучыні праекта. Мы хочам быць незалежнымі і хочам працаваць для Беларусі. Да той пары, пакуль мы зможам, мы будзем рабіць сваю працу так добра, як зможам».

### Радыё «Рацыя»: з Беластока на ўсё памежжа

Радыё «Рацыя» месціцца ў Беластоку на вуліцы Цёплай, працуе з 1998 года.

«Мы вяшчаем для беларусаў, якія жывуць у Беларусі і ў Польшчы. У рэгіёнах, дзе «ловіцца» наша радыё, пражывае каля 3 мільёнаў чалавек. Можна сказаць, што наша радыё — гэта яркая падзея ў эфіры і Польшчы, і Беларусі, — кажа дырэктар «Рацыі», беластоцкі беларус Яўген Вапа. — Уласнікі «Рацыі» — беларусы Беласточчыны, у працы нашай радыёстанцыі задзейнічаны і іх інтэлектуальны патэнцыял. «Рацыя» вядомая сярод жыхароў прыгранічча. Заязджаюць сюды да нас кантрабандысты, прывозяць нам свае яблыкі, сліўкі, каўбасу — дадатак да нашай зарплаты, — смяецца сп. Вапа. — Яны адчуваюць, што мы ім патрэбныя, а яны патрэбныя нам. Найбольшае наша дасягненне — пераход на вяшчанне ў дыяпазоне ФМ, што дазволіла пашырыць плошчу перадач. Радыё «Рацыя» перасягае і скасоўвае межы, — з гонарам кажа Вапа. — Яго чуваць на Беласточчыне аж да Белай Падляшскай, на Гродзеншчыне, на Берасцейшчыне аж да Маларыты».

Калектыў радыё «Рацыя» — 70 асобаў. У праграме — 45 аўтарскіх перадачаў. Найбольш папулярныя перадачы — музычныя віншаванні. Слухачы званяць на гэтыя перадачы вельмі актыўна, замаўляюць віншаванні, часта на сваёй роднай гаворцы.

Ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі і безлічы ФМ-станцыяў радыё «Рацыя» займае сваю нішу, даючы беларусам памежжа інфармацыю, якая іх цікавіць, а таксама пэўным чынам арыентуючы іх у культурных падзеях.

Дырэктар «Рацыі» Вапа з'яўляецца адначасова і галоўным рэдактарам газеты беларусаў Польшчы «Ніва», якая выдаецца накладам 1300 асобнікаў. Ён — вядомы арганізатар беларускага жыцця на Падляшшы, многае робіць для захавання тут беларускай мовы. Беларускія ўлады аддзякавалі яму тым, што не выдалі ўязную візу. Трапіць на духоўную радзіму, такім чынам, сп. Яўген не можа. Але не губляе гуморы: «Нічога, будзе час, я яшчэ прыеду без усялякіх праблем у вольную Беларусь».

**Наталка Бабіна, Варшава — Беласток — Мінск**

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Нафтахімік»

**19 снежня мінскае «Дынама»** прыме дома ніжнекамскі «Нафтахімік» у рамках першынства КХЛ. Першая ў сезоне гульня гэтых каманд скончылася перамогай татарскага клуба (3:0). «Мінск-Арэна». Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### III Мінскі міжнародны калядны оперны форум

**Ад 16 да 23 снежня ў Мінску** адбудзецца Трэці Мінскі міжнародны калядны оперны форум у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**16 снежня а 19-й** — «Сівая легенда»
**18 снежня а 19-й** — «Зігфрыд»
**19 снежня, а 19-й** — «Яўгеній Анегін»
**20 снежня а 19-й** — «Князь Ігар»
**22 снежня а 19-й** — фінал конкурсу Competizione dell' opera
**23 снежня а 19-й** — Гала-канцэрт зорак сусветнай оперы і лаўрэатаў міжнароднага конкурсу Competizione dell' opera.

### Дзед Мароз у Батанічным садзе

**15 і 16 снежня Цэнтральны батанічны сад** запрашае пабачыць прыгоды Дзеда Мароза ў чароўнай аранжарэі. У трапічных і субтрапічных сектарах аранжарэі наведвальнікам пакажуць, як святкуюць Новы год на экватары. Таксама дарослых і малых наведнікаў чакае Казачнае возера і «палёт на паветраным шары на гару Кіліманджара і сплаў па рацэ Ніл».

## КАНЦЭРТЫ

### Адзіс Абеба

**17 снежня а 19-й у «Графіці»(зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурту «Адзіс Абеба».

### «Грыфаманія»

**15 снежня ў ДК МТЗ** адбудзецца 14-ы фестываль гітарыстаў «Грыфаманія». Гітарыст гурту Rage Віктар Смольскі стане хэдлайнерам фэсту. Квіткі — 60—80 тысяч.

### Сара Конар

**15 снежня ў Вялікай зале Палаца Рэспублікі** адбудзецца канцэрт сусветнай зоркі — Сары Конар. Пачатак а 19-й. Квіткі — 100—500 тысяч рублёў.

### «Маланка Аркестр» і Vuraj

**20 снежня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — падваротна-стадыённы «Маланка Аркестр» і Vuraj.

### Калаварот

**21 снежня а 19-й у Малой зале Філармоніі** ансамбль салістаў «Класік-Авангард» прадставіць увазе публікі праграму «Калаварот». У канцэрце бярэ ўдзел пост-фальклорны гурт «Страла».

### Сярэднявечная дыскатэка

**22 снежня а 18-й у «Графіці»** — сярэднявечная дыскатэка з гуртом Pawa.

## ВЫСТАВЫ

### Terra Nova

**Да 23 студзеня ў галерэі «Ракурс»** Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працуе IV Мінскі міжнародны фестываль лічбавага мастацтва Terra Nova. Праграма фестывалю ўключае выстаўку лічбавай фатаграфіі і камп'ютарнай графікі, а таксама відэапрагляды на працягу месяца ў галерэі «Лабірынт» і зале адукацыйных тэхналогій Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

### Пасляваенны Мінск у карцінах Наліваева

**Да 6 студзеня ў Доме-музеі І з'езда РСДРП** працуе выстава «Паваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева». Мастак з дзяцінства меў фатаграфічную памяць і ўжо з 14 гадоў таемна маляваў разбураны вайной Мінск (у 1940—1950-я гады фатаграфаваць і маляваць сталіцу Беларусі было забаронена).

### Карані

**У Музеі гісторыі Мінска (пл.Свабоды, 15) да 20 снежня** працуе сумесная выстава беларускіх і літоўскіх мастакоў пад назвай «Карані», прысвечаная... лесу. Агульныя карані двух суседніх народаў варта пашукаць там, у гушчарах і пушчах, пад кронамі дубоў і соснаў…

### Графіка Фабера дзю Фора

**Да 22 студзеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Вайна 1812 года вачыма відавочца. Графіка Фабера дзю Фора». Мастак быў палкоўнікам напалеонаўскай «Вялікай Арміі». Выстава яго малюнкаў — унікальная магчымасць пабачыць Беларусь дафатаграфічнай эпохі.





### Калядныя кірмашы

**Калядныя кірмашы адкрыюцца ў Мінску ад 15 снежня.** Гандлёвыя рады разгорнуцца на Кастрычніцкай плошчы і на праспекце Пераможцаў каля Палаца спорту. Шырокамаштабны святочны гандаль будзе доўжыцца да 15 студзеня.



### Чэмпіянат Беларусі па фігурным катанні

**15–16 снежня на «Мінск-Арэне»** пройдзе першынства краіны па фігурным катанні. Будуць выступы мужчын і жанчын, парнае катанне і спартыўныя танцы. 16 снежня а 17-й гадзіне пачнецца шоу «Гала-чэмпіёнс».

## ТЭАТРЫ

### 12 снежня

**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 13 снежня

**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»

### 14 снежня

**Лялек** — «Шоўк»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 15 снежня

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

### 16 снежня

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

### 17 снежня

**Купалаўскі** — «Ліставад. Андэрсэн»
**Беларускай драматургіі** — Happy Valentine

### 18 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 19 снежня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 20 снежня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 21 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 22 снежня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

## КІНО

### Хто ахоўвае дзіцячыя сны

**Ахоўнікі сноў** (Rise of the Guardians)
ЗША, 2012, каляровы, 97 хв.
**Рэжысёр:** Пітэр Рамсі
**Жанр:** Фантазійныя анімацыйныя прыгоды для дзяцей
**Адзнака:** 6 (з 10)

Усё было добра, пакуль злы дух Змрочнік не вырашыў сапсаваць дзіцячыя сны. Нягоднік прагне замяніць мары кашмарамі. Але Паўночнік збірае каманду Ахоўнікаў, каб абараніць маленькіх дзетак. У каманду запрошаны і Ледзяны Джэк, але хлопец любіць гарэзіць і не прызвычаены да калектыўнай працы.

Стужка Пітэра Рэмсі — лёгкая дзіцячая казка з каларытнымі персанажамі. Зубная фея — з эльфійскім абліччам калібры, маўклівы Пясочны чалавечак з парасонам, Пасхальны Трус са звычкамі баявога індзейца. Нарэшце, ачольвае каманду Паўночнік — высокакваліфакаваны Санта Клаус з татухамі (які даўно забыў пра сваё паходжанне і стаўся камерцыйнай анімацыйнай фігуркай). Героі карціны — персанажы заходняга дзіцячага фальклору, якія сабраліся ў баявую каманду на манер калегаў з дарослых баевікоў. У стужцы процьма прыгодаў, незвычайных трукаў і казачных бітваў. Але гэтая анімацыя разлічаная на дзетак: яна нястрашная.

**Андрэй Расінскі**



# Дзесяць шкодных звычак, якія застаюцца незаўважнымі

Што псуе здароўе жанчынам, а што мужчынам?

Яшчэ на пачатку XX стагоддзя дажыць да 70 гадоў было вялікай удачай, хоць экалагічная сітуацыя была лепшая, а людзі рухаліся больш. Сёння тэхналогіі дазваляюць нам жыць даўжэй ды камфортней. Але найгоршы вораг чалавека — гэта ён сам. «Наша Ніва» сабрала 10 тыповых звычак сучасных мужчын і жанчын, якія трэба кідаць.

## Жанчыны

### 1. Высокія абцасы

Абутак на абцасах вельмі распаўсюджаны сярод беларусак, шмат хто носіць высокія абцасы штодня. Але завысокія абцасы негатыўна ўплываюць на паставу ды залішне нагружаюць суставы і могуць выклікаць зусім непрыемныя наступствы: артрыт, дэфармацыю пальцаў ног, болі ў спіне, траўмы сухажылляў. Пры гэтым трэба памятаць, што зваліцца з высокіх абцасаў вельмі лёгка, асабліва ўзімку. Не насіце абцасы, вышэйшыя за 4 сантыметры, ды давайце вашым нагам адпачыць у абутку без абцасаў.

### 2. Цяжкія торбачкі

Перанос цяжкасцяў дрэнна адбіваецца на арганізме чалавека, а калі трэба цягаць нешта працяглы час, негатыўны эфект толькі ўзмацняецца. На жаль, сёння жаночыя торбачкі з дакументамі, ноўтбукамі, планшэтамі ды яшчэ асабістымі рэчамі — нялёгкая ноша. Больш за тое, торбачкі носяць на адным плячы ці ў адной руцэ, і праз гэта нагрузка на пазваночнік размяркоўваецца нераўнамерна, што ў выніку можа прынесці значную шкоду вашай паставе ды спіне. Каб гэтага не адбывалася, паспрабуйце «выкінуць» усё непатрэбнае. Ці можна разгледзець варыянт пераходу на артапедычны заплечнік — «здаравейшы» варыянт пераносу сваёй маёмасці.

### 3. Станік няправільнага памеру

Лічыцца, што 70% жанчын носяць станікі не свайго памеру. Але такія станікі могуць выклікаць болі ў спіне, шыі ды грудзях, пагаршаюць якасць дыхання, раздражняюць скуру, парушаюць нармальны кровазварот. Каб унікнуць магчымых непрыемнасцяў, адказна стаўцеся да выбару гэтай штодзённай часткі вашага адзення.

### 4. Выпіваць нароўні з мужчынамі

Падчас застолляў ці вечарын многія жанчыны не хочуць адставаць ад супрацьлеглага полу ў спажыванні алкаголю. Але жанчыны не толькі важаць меней за мужчын, але іх арганізмы таксама ўтрымліваюць менш вады, якая разводзіць алкаголь. Паспрабуйце абмежаваць ужыванне алкаголю і памятайце: звычайна вам патрэбна нашмат менш, чым вашаму мужу.

### 5. Шмат перажыванняў і мала клопату пра сябе

Жанчыны ўдвая часцей за мужчын пакутуюць ад разладаў, звязаных са стрэсам. Таксама жанчыны ў два разы больш схільныя доўгі час утойваць пержыванні ад няўдалых адносін. Дадае негатыву і той факт, што шмат жанчын ставяць патрэбы іншых вышэй за свае. Лічыцца, што часткова такія паводзіны могуць выклікацца асаблівасцямі жаночай псіхалогіі, але будзе карысна адсунуць перажыванні аб мінулым і выдаткоўваць больш часу на сябе, каб быць больш здаровай у будучыні.



Высокія абцасы залішне нагружаюць суставы.



Гарачыя ванны для мужчын пагражаюць парушэннем рэпрадуктыўнай функцыі.

## Мужчыны

### 1. Злоўжыванне алкаголем

Беларусы п’юць шмат, і гэта само сабой шкодна для здароўя. Не менш шкоднай з’яўляецца і традыцыя беларусаў ужываць вялікія колькасці алкаголю запар. Абмяжуйце ўжыванне алкаголю да здаровага мінімуму, і вы засцеражаце сябе ад хуткага набору вагі і захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы і іншых праблем, звязаных з празмернай выпіўкай.

### 2. Ігнараванне медыцынскіх абследаванняў і самаабследаванняў

Мужчыны ў сярэднім жывуць менш за жанчын, і ў мужчын больш шанцаў памерці ад раку. Разам з гэтым мужчыны нашмат часцей ігнаруюць дактароў. Мужчыны (у параўнанні з жанчынамі) таксама не надта любяць праводзіць самаагляд. Прычынамі такіх паводзінаў можа быць страх, няўважлівасць ці абыякавасць да здароўя, але рэгулярныя медыцынскія абследаванні ды самаабследаванні ў шматлікіх выпадках могуць дапамагчы выявіць захворванне на ранняй стадыі. Банальна аглядайце сябе часцей, у тым ліку і ззаду. І абмацвайце сваё цела, у тым ліку тыя часткі яго, у якіх узнікаюць небяспечныя новаўтварэнні.

### 3. Трымаць усё ў сабе

Мужчыны часта замыкаюцца ў сабе і нікому не расказваюць пра свае праблемы і трывогі, не просяць дапамогі і змагаюцца з напасцямі самастойна. Між тым, мужчыны на 50% часцей за жанчын хварэюць на дэпрэсію і на 77% часцей чыняць самагубствы. Мужчыны з дэпрэсіяй у два разы часцей шукаюць выйсце ў алкаголі, а гнеў, «загнаны» ў сябе, павышае рызыку інфаркту.

### 4. Грэбаванне асабістай гігіенай

Згодна з даследаваннямі амерыканскіх даследчыкаў, нават у самых развітых краінах адзін мужчына з трох не мые рук пасля паходу ў прыбіральню, а такое зняважлівае стаўленне да здароўя можа прывесці да шматлікіх інфекцыйных захворванняў. Таксама толькі 66% мужчын чысцяць зубы два разы на дзень ці часцей. Гэта пагражае не толькі непрыемным пахам, карыесам, але і захворваннямі дзяснаў. Яны, ўсваю чаргу, могуць павышаць рызыку сардэчных захворванняў і эрэктыльнай дысфункцыі.

### 5. Частыя гарачыя ванны

Пасля працы прыемна адпачыць у ванне, поўнай гарачай вады. Але частыя ванны лепш замяніць на душ, бо такія водныя працэдуры могуць пашкодзіць рэпрадуктыўную функцыю: сперматазоіды гінуць у лазні і гарачай вадзе.

**Кірыла Хілько**

# У Мінску легалізавалі графіці

Але спачатку трэба ўзгадніць эскіз у райвыканкаме.

Чыноўнікі вырашылі выдзеліць аматарам вулічнага мастацтва легальныя сцены для роспісу. Барацьба з моладдзю аказалася праігранай — з пачатку года шкода ад несанкцыянаваных надпісаў, нанесеных на будынкі, склала больш за 162 мільёны рублёў. Летась на зафарбоўванне такіх надпісаў было выдаткавана больш за 160 мільёнаў. Мяркуючы па ўсім, гарадскія ўлады прыйшлі да высновы, што часам, дазволіўшы, можна дамагчыся большага эфекту, чым забараніўшы.

Праўда, перш чым ствараць, вулічнаму мастаку неабходна прад’явіць эскіз. Пералік легальных сцен можна знайсці на сайтах адміністрацый райвыканкамаў.

**«Мінск-Навіны»**

Здароўе

# Аўстралія ўвяла адзіны пачак цыгарэт — страшны

Пачынаючы з 1 снежня, усе лагатыпы тытунёвых кампаній на цыгарэтных пачках замяняюцца надпісамі цёмна-аліўкавага колеру з выявамі людзей, якія пакутуюць выклікаsuccessfully курэннем захворваннямі.

Аўстралійскі ўрад заяўляе, што ён абавязаны дзейнічаць, бо штогод ад звязаных з курэннем хвароб у краіне памірае 15 тысяч чалавек.

**СГ**




Курэнне выклікае рак рота і горла, папярэджваюць на ўпакоўках.



На Кастрычніцкай плошчы ўсталёўваюць цэнтральную ёлку краіны. Хутка Каляды і Новы год.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Экс-салістка «Віягры» Вера Брэжнева цалуе ў шчочку абаронцу БАТЭ Ягора Філіпенку. Спявачка прысутнічала на ўручэнні барысаўцам залатых медалёў чэмпіянату.

СЯРГЕЙ БАЛАЙ, «САЛІДАРНАСЦЬ»



Няўдалае пудзіла лісы 26-гадовай Адэль Морзэ з Вялікабрытаніі трапіла ў інтэрнэт і неўзабаве стала аб'ектам шматлікіх фотажабаў.



У Бразіліі ў 104 гады памёр вядомы архітэктар Оскар Німеер. Дзесяцігоддзямі Німеер ствараў яркія будынкі з жалезабетону. На фота: Оскар Німеер каля сваёй лятаючай талеркі — музея ў Нітэроі.

## Анекдоты

* * *

Падчас таргоў на беларускай валютнай біржы еўра ўпаў на 100 рублёў. 100 рублёў са шматлікімі пераломамі дастаўленыя ў шпіталь.

* * *

Наступным дэкрэтам Лукашэнкі будзе дэкрэт аб тым, што прэзідэнту таксама нельга звальняцца з працы.

* * *

Мяркуючы па «Фэйсбуку», на беларускім адборы на «Еўрабачанні» перамог «Океан Ельзи».

* * *

Рана ці позна беларусы не стануць трываць моўчкі і ўздымуцца. Прынамсі, з мэтаю прафілактыкі пролежняў.

* * *

А цяпер усе ўсталі і пайшлі разграбаць снег. А хто не пойдзе разграбаць, таго заграбуць па артыкуле «Ухіленне ад права на працу».

* * *

Брыгадзе, якая працавала на дне кар'ера, паведамілі, што прывезлі аванс. Так хутка па кар'ернай лесвіцы не ўздымаўся ніхто.

* * *

Хлопчык падаў заяву класнай кіраўніцы: «Прашу адпусціць майго сына з урокаў 21 снежня, таму што хочам сустрэць канец свету з сям'ёй».

## З жыцця

Быў сёння на сустрэчы, дзе выступаў дырэктар аднаго беларускага музея: «У нас прекрасные взоимоотношения с властью. Она нам всячески помогает. Главная наша проблема — это отсутствие денег и серьёзной материальной базы».

**Дзмітрый Г.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Брэст-Літоўск.** Тут арыштавалі аўстрыяцкага падпалкоўніка генеральнага штаба, па падазрэнні ў тым, што ён аглядаў пагранічныя мейсцы, дзе стаіць расейскае войска. У двайных халявах ботаў яго знайшлі планы крэпасці ў Брэст-Літоўску і ўсяго польскага краю. Арыштаванага адправілі пад сільным канвоем у Варшаву.

**«НН». №49—50. 1912.**

**На адкрыццё кожнай рэстарацыі «Макдональдс»** ідзе 1,2 мільёна даляраў, а ўвогуле за шэсць гадоў працы ў краіне кампанія ўклала ў справу ўжо 14 мільёнаў даляраў. У шасці мінскіх фаст-фудах працуе 860 чалавек: 790 — абслугоўваюць, 45 — менеджары, 25 — адміністратары.

**«НН». №46. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8110. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 11.12.2012.
Замова №5507.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12